


# Літаратура і мастацтва

**газета творчай інтэлігенцыі Беларусі**

23 КРАСАВІКА 1999г. № 16/3996 КОШТ 15 000 РУБ.








Антаніна ХАТЭНКА

# Чарнабылевы боль крыжа

*...Цалавала жанчына крыж —*
*вечны род над Зямлёй вітала.*
*Як ты спіш, мой родзе, як спіш*
*пад чарнобыльскаю навалай?*
*Цалавала жанчына свет,*
*што сцішэў*
*пад крыжом крылатым.*
*Сцежкі белыя па траве*
*беглі, беглі з крыжоў дахаты.*
*Цалавала жанчына след,*
*пацямнелы ў крыжы радзімкай.*
*Песня ў радаўнічным святле*
*галасіла з пустэльні дзікай.*
*Цалавала жанчына сон,*
*недаснёны ў радзімым золку.*
*Нервы продкавых галасоў*
*страпянуліся ў цішы золкай.*
*Цалавала жанчына ўсход —*
*ручнікі да нябёсаў слала...*
*А за магілкамі — адхон.*
*Доля, як ледзяная зала.*
*Цалавала жанчына знак:*
*тут з'ўяляліся і ўміралі.*

(Працяг на стар. 14—15)



## КОЛА ДЗЁН

***У аўторак была Радаўніца. У народзе пра яе гавораць: “На Радаўніцу да абеду пашуць, па абеду плачуць, а к вечару скачуць”. Такі ўжо мы народ — беларусы. І можам мы забыцца амаль пра ўсіх і помніць толькі “вождей пролетариата”, але, аднойчы ўспомніўшы, што мы і хто мы, дзівім свет пакланеннем перад сваімі продкамі, спяшаючыся натоўпамі на Радаўніцу да іх магіл. І гэтага пакланення дастаткова для таго, каб сказаць, што ў нас, беларусаў, абудзілася памяць пра сваю гісторыю. А маючы памяць, мы маем і будучыню, маем сваю Беларусь.***

### АДАБРЭННЕ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 21 красавіка прыняў са справаздачай прэм’ер-міністра Беларусі Сяргея Лінга. Даволі значнае месца ў гутарцы было аддадзена пытанням аплаты працы. Прапанова ўрада павысіць мінімалку і стаўкі першага разраду з 1 мая была адобрана прэзідэнтам. Канкрэтныя лічбы стануць вядомымі ў бліжэйшыя дні.

### ЧП ТЫДНЯ

Тэлекампанія НТВ распаўсюдзіла інфармацыю, што на Смаленскай АЭС адбылося ЧП, якое можа значна паўплываць на радыяцыйную абстаноўку ў гэтым рэгіёне. Кампетэнтныя крыніцы пацвердзілі, што 16 красавіка ў 17 гадзін 35 хвілін на блоку N 3 Смаленскай АЭС пры выкананні штатнай аперацыі па перагрузцы паліва быў выяўлены тэхналагічны дэфект. Зараз вядзецца ліквідацыя прычын і вынікаў дэфекту. Хочацца верыць, што гэтае ЧП — раённага маштабу.

### РАШЭННЕ ТЫДНЯ

У свой час нараджэнні мільённага і паўтарамільённага жыхара нашай сталіцы былі святамі не толькі для бацькоў дзяцей, але і амаль для ўсёй Беларусі. У сувязі з надыходам новага тысячагоддзя Мінскі гарвыканкам прыняў рашэнне аб правядзенні акцыі “Дзіця-2000”. Гарадскімі ўладамі прадугледжваецца выдзяленне кватэры сям’і дзіцяці, якое народзіцца першым 1 студзеня 2000 года, і якая мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў. Акрамя таго, будуць набытыя каштоўныя падарункі для ўсіх дзяцей, якія народзяцца ў сталіцы ў першы дзень новага года. Шкада, што абвешчана пра гэта менш чым за дзевяць месяцаў да пачатку 2000 года...

### ПРАГНОЗ ТЫДНЯ

На пасяджэнні Прэзідыума Савета Міністраў з дакладам выступіў міністр эканомікі Уладзімір Шымаў. Гаворачы аб праграме паэтапнага скарачэння перакрыжаванага субсідзіравання спажыўцоў энергарэсурсаў, ён паведаміў, што да канца гэтага года трэба пастарацца давесці працэнт затрат, пакрытых насельніцтвам, да больш высокага ўзроўню. Па прыродным газе ён павінен складаць 70 працэнтаў, па электраэнергіі — да 80, па цяплу для патрэб насельніцтва — да 30 працэнтаў. Такім чынам, прагназіруецца, што ў канцы года грамадзяне Беларусі будуць аплачваць прыкладна 60 працэнтаў затрат жыллёва-камунальных паслуг. Як бачым, да 100 працэнтаў яшчэ далёка, а ўжо кватрплаты для многіх кусаюцца.

### ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

Хутка ўжо лета — пара адпачынкаў. З гэтай нагоды намеснік начальніка пасажырскай службы Беларускай чыгункі праз рэспубліканскі друк зрабіў паведамленне для ўсіх, хто марыць летам як мага далей уцячы ад сваіх кватэрных клопатаў і гарадскога тлуму. У паведамленні гаворыцца, што летні расклад руху цягнікоў будзе дзейнічаць з 30 мая. З гэтага дня пачне курсіраваць тры разы на тыдзень новы цягнік Магілёў—Мінск. Яшчэ адным новаўвядзеннем стане пасажырскі састаў Кіеў—Мурманск. Двойчы на тыдзень ён будзе праходзіць праз нашу сталіцу, Гомель, Жлобін і Оршу. Пасля ўкамплектавання пачне курсіраваць хуткі цягнік Гродна—Мінск. З увядзеннем новага раскладу захаваюцца прычапныя вагоны, што звязваюць сталіцу Беларусі з гарадамі далёкага замежжа — Берлінам, Прагай, Будапештам, Сафіяй, Кёльнам. З’явіцца і новы прычапны вагон Мінск—Варна. Словам, можна будзе паехаць адпачываць хоць на край свету — было б за што!

### ЗНІКНЕННЕ ТЫДНЯ

Пасля шасцігадовай трансляцыі з канала РТР назаўсёды знікла “мыльная опера” аб пакутах амерыканскіх мільянераў на сонечным узбярэжжы каліфарнійскай Санта-Барбары. Справа ў тым, што ранейшыя аб’ёмы рэкламы, якія дазвалялі каналу закупляць новыя серыі, кошт кожнай з якіх складае 14 тысяч долараў, пасля жнівеньскага фінансавага крызісу так і не ўдалося аднавіць. Гэтае знікненне для многіх тэлегледачоў стала амаль бядой — прывыклі, прыжыліся да “Санта-Барбары”. Аднак для тых, хто любіць “мыльныя оперы”, падобных шэдэўраў хапае і на іншых каналах...

### ЗАТРЫМАННЕ ТЫДНЯ

Кожны выпадак затрымання кантрабанды на мяжы пацвярджае саму патрэбнасць межаў паміж дзяржавамі. Вось і пагранічнікі Лідскага атрада сумесна з супрацоўнікамі Воранаўскай мытні пацвердзілі гэта, прадухіліўшы вываз за межы нашай краіны дзвюх кніг “Мінскія епархіяльныя ведамасці”, выдадзеных больш за 100 гадоў назад. Затрыманне кніжнай кантрабанды для некага падасца вельмі нязначным, але...

### НАПАМІН ТЫДНЯ

Хто збіраецца без асаблівых праблем з’ездзіць у Балгарыю, то гэта варта зрабіць да 1 лістапада, бо з гэтага дня наведаць братнюю краіну можна будзе толькі пры наяўнасці ўязной візы. Аналагічныя захады будуць распаўсюджвацца і на балгарскіх грамадзян. Праўда, гэтым напамінам можа і сёння скарыстацца не кожны.

НОВАЕ

# Пішацца гісторыя літаратуры

У выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў першы том “Гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя”, які ахоплівае 1901—1920 гады. З’яўленне падобнага выдання даўно наспела. Як вядома, ад выхаду папярэдняй акадэмічнай “Гісторыі беларускай літаратуры” ў чатырох тамах мінула нямала гадоў. Першы том яе пабачыў свет у тагачасным выдавецтве “Навука і тэхніка” ў 1965 годзе, апошні — у 1969-м. За гэты перыяд нацыянальнае прыгожае пісьменства пайшло далёка наперад. У літаратуры плённа працуюць прадстаўнікі новых творчых пакаленняў, а тыя, хто некалі быў маладым, цяпер стаў гонарам яе. Значыць, ёсць патрэба асэнсавання гэтых важкіх набыткаў. Аднак на напісанне новай “Гісторыі...” паўплывалі і іншыя, няменш важкія прычыны. У шырокі літаратурны набытак вернуты многія творы, што на працягу дзесяцігоддзяў замоўчваліся. Тыя ж, што выходзілі са значнымі купюрамі, друкуюцца ў сваім першапачатковым выглядзе. Нарэшце знята табу ў дачыненні пісьменнікаў, якія з-за сваіх палітычных поглядаў зусім замоўчваліся. Акрамя таго патрабуе ўвядзення ў агульны нацыянальны літаратурны працэс творчасць прадстаўнікоў беларускай эміграцыі. А да ўсяго сталі вядомы многія новыя факты, якія тычацца літаратурнага і ў цэлым культурнага жыцця.

Усё гэта і стала перадумовай напісання новай гісторыі нацыянальнай літаратуры. Вырашана выдаць яе ў шасці тамах. Уласна “Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя” зойме чатыры тамы. Пасля з’явіцца “Гісторыя старажытнай і новай беларускай літаратуры” ў двух тамах. А што напісанне “Гісторыі...” вядзецца ў “адваротным” кірунку, таксама невыпадкова. Справа ў тым, што менавіта творы, якія былі напісаны ў савецкі перыяд, крытыкай і літаратуразнаўствам, а адпаведна і тымі даследчыкамі, што працавалі над “Гісторыяй...”, асвятляліся і разглядаліся тэндэнцыйна, над мастацкімі ацэнкамі часта пераважалі ідэалагічныя, большая ўвага надавалася творам (і пісьменнікам), якія працавалі па сутнасці па сацыяльным заказе і, наадварот, крытыцы падвяргалася тое, што, у прыватнасці, сведчыла аб распрацоўцы аўтарамі праблем нацыянальнага жыцця. Таму згаданы перыяд у развіцці літаратуры і патрабуе хутчэйшай пераацэнкі як мага большай аб’ектыўнасці. А па-другое, супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, якія спецыялізуюцца на старажытнай літаратуры і новай літаратуры, апошнім часам падрыхтавалі і выдалі чатырохтомныя “Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей”. Над “Гісторыяй беларускай літаратуры XX стагоддзя” працуюць не толькі навукоўцы згаданага акадэмічнага інстытута. Актыўна далучаюцца да гэтай важнай, можна сказаць, дзяржаўнай справы выкладчыкі Беларускага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка, Віцебскага і Брэсцкага універсітэтаў.

Асноўнае месца ў першым томе займае раздзел “Літаратура пачатку XX стагоддзя. 1901—1917”. Аглядныя артыкулы па паэзіі, прозе, драматургіі, крытыцы і літаратуразнаўстве напісалі Л.Гаранін, С.Лаўшук, М.Мушынскі. Асобныя артыкулы прысвечаны творчасці найбольш вядомых пісьменнікаў: Ядвігіна Ш. (Л.Голубева), Цёткі (І. Багдановіч), Я.Купалы (І.Навуменка), Я.Коласа (М.Тычына), З.Бядулі (І. Навуменка), М.Багдановіча (І. Навуменка), А.Гаруна (У.Казбярук), Ф.Аляхновіча (У.Ковель), Ц.Гартнага (Т.Дасаева), М.Гарэцкага (М. Мушынскі), В. Ластоўскага (Я. Янушкевіч), А.Луцкевіча (А. Бяляцкі). Раздзел “Літаратура перыяду рэвалюцыі і грамадзянскай вайны” напісаў У.Казбярук. Крытыку і літаратуразнаўства 1917—1920 гадоў разглядае М.Мушынскі. На завяршэнне твора прапануецца хроніка літаратурнага жыцця гэтых гадоў, аўтары якой У. Гніламёдаў, В.Смольская, М.Варвашэвіч, І.Шаладонаў. Навуковымі рэдактарамі з’яўляюцца народны пісьменнік Беларусі акадэмік І.Навуменка і акадэмік В.Каваленка.

**Н.К.**

ІМПРЭЗЫ

# Ад прэм’еры — да фестывалю

Аўтарскі вечар Людмілы Шлег, пра падрыхтоўку якога мы паведамлялі чытачам, прайшоў у атмасферы чалавечай шчырасці і творчага поспеху. Кампазітарка прысвяціла яго 2000-годдзю хрысціянства і ўключыла ў праграму толькі два творы: “Літургію св. Іяана Залатавуста” для дзіцячага хору і салістаў (спяваў калектыў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Алы Мазуравай, якая, да таго ж, выканала партыю меццa-сапрана) і “Усяночную” для змяшанага хору і салістаў (выканаўцы — Мінскі абласны камерны хор “Sonorus” пад кіраўніцтвам Аляксея Шута).

Кульмінацыяй імпрэзы, безумоўна, сталася прэм’ера “Усяночнай”, вялікая доля поспеху якой належала чуламу інтэрпрэтатару новай беларускай музыкі А. Шуту. Прадаўжаючы пэўную жанравую лінію ў досыць разнапланавай творчасці хору “Sonorus” (даканонічных тэкстаў “Усяночнай” звярталіся ў 90-ыя гады нашы кампазітары С. Бельцюкоў, А. Хадоска, чые прэм’еры таксама рыхтаваліся ў плённым супрацоўніцтве з маэстра А. Шутам), выканаўцы агаралі складаную і маштабную працу,



перш чым ёмістае палатно Л. Шлег набыло жывое гукавое аблічча, мастацкую каштоўнасць.

Адметна, што выкананне “Усяночнай” не абмяжуецца нядаўнай прэм’ерай ў Зале камернай музыкі сталічнай філармоніі. Гэтаму твору ў інтэрпрэтацыі хору “Sonorus” выпаў гонар адкрываць фестываль праваслаўнай духоўнай музыкі, што пачаўся 22 красавіка канцэртам у Беларускай акадэміі музыкі.

Падчас фестывалю новы твор Л. Шлег прагучыць і ў праваслаўных храмах Полацка. Потым А. Шут плануе пазнаёміць з ім слухачоў Гарадзеншчыны, Гомельшчыны, Міншчыны.

**Н. К.**

*На здымку: падчас аўтарскай вечарыны Л. Шлег.*

*Фота А. ПРУПАСА*

АНОНС

# Закаханыя ў “Оскара”

Чарговы фестываль “Лаўрэаты і намінанты прэміі “Оскар” распачнецца 24 красавіка і пройдзе ў кінатэатрах “Аўрора”, “Кастрычнік”, “Масква”. Дзякуючы Беларускаму фонду 100-годдзя сусветнага кіно, а таксама прадпрыемству “Кінавідэапракат” Мінгарвыканкама мінчукі ідуць ў нагу з гледачамі ўсяго свету. Сёлета праграму фестывалю склалі лепшыя фільмы 1998 года: “Закаханы Шэкспір” (сем “Оскараў”, у тым ліку за “Лепшы фільм”), “Выратоўваючы радавога Райна” (пяць “Оскараў”, у тым ліку “Лепшаму рэжысёру”), “Шоу Трумана” (тры намінацыі на прэмію “Оскар”), “Бэйб-2: парасё ў горадзе” (адна намінацыя на прэмію “Оскар”), “Магутны Джо Янг” (адна намінацыя на прэмію “Оскар”), “Звыш поля зроку” (дзве намінацыі на прэмію “Оскар”).

Атрымаць “Оскар” — спецыяльную ўзнагароду Амерыканскай кінаакадэміі марыць большасць кінематаграфістаў свету. “Оскар” — гэта вяршыня поспеху і славы. Шчасліўцы, якія атрымалі залатыя статуэткі, адразу ж уваходзяць у гісторыю кіно.

Па ўспамінах В. Каваленкі, пасля выхаду на экраны фільма “Ідзі і глядзі”, створанага па матывах “Хатынскай аповесці”, некаторыя дзеячы кінамастацтва вырашылі вылучыць яго на атрыманне вышэйшай узнагароды свету для кінематаграфістаў — амерыканскага “Оскара”. Гэты намер спадабаўся і А. Адамовічу. Аднак, здаецца, на ўзроўні размоў усё і спынілася. У намінацыю “Лепшы замежны фільм” 1995 года магла б трапіць і стужка Д. Астрахана “З пекла ў пекла”, якая прадстаўляла Беларусь. Такім чынам, у нашага кіно яшчэ ўсё наперадзе, трымайцеся амерыканскія кінаакадэмікі!

**В. Б.**

ВІНШУЕМ!

## За працу на карысць яднання хрысціян

Старшыня бюро секцыі мастацкага перакладу і літаратурных сувязяў Саюза беларускіх пісьменнікаў, загадчык кафедры славянскіх літаратур БДУ доктар філалагічных навук **Іван Чарота стаў лаўрэатам прэміі імя князя Канстанціна Астрожскага.**

Гэта міжнародная і міжканфесійная ўзнагарода спецыяльнага камітэта, які складаюць прадстаўнікі навукі, культуры і Царквы. Заснавала камітэт рэдакцыя часопіса "Пшэглёнд Праваслаўны" (Беласток, Польшча). Прэмія прысуджаецца за заслугі ў развіцці культуры, думкі і духоўнасці праваслаўнай, а таксама за працу на карысць яднання хрысціян, што цалкам увасабляе ў сабе падзвіжніцкая дзейнасць слыннага сына зямлі беларускай — князя Канстанціна Астрожскага.

Сёлета, разам з прафесарам Іванам Чаротам, узнагароджаны прафесар Ягелонскага ўніверсітэта Ганна Ружыцка-Брызэк і прафесар Маскоўскай духоўнай акадэміі протапрэсвітэр Віталій Баравой.

Дарэчы, айцец Віталій таксама беларус паходжаннем, з Палесся, выпускнік Віленскай духоўнай семінарыі.

**У. І.**

ТВОРЧАСЦЬ

## Паэзія — і зямная госця

Чарговае пасяджэнне бюро секцыі паэзіі Саюза беларускіх пісьменнікаў адбылося на мінулым тыдні. Яно адметнае тым, што разглядалася творчасць тых паэтаў, якія жывуць у рэгіёнах і падалі заявы на ўступленне ў творчы саюз. А гэта Вольга Русілка і Алесь Бабед з Віцебшчыны, Алесь Лісіцкі — з Гомельшчыны, а таксама мінчане Алена Пяхота і Зміцер Вішнёў.

Што да першых трох, дык па ранейшай завядзёнцы ім дастаткова было атрымаць рэкамендацыі абласных аддзяленняў СБП, каб пасля гэтага іх лёс вырашала прыёмная камісія. Такія рэкамендацыі ў В. Русілкі, А. Бабаеда і А. Лісіцкага ёсць, але цяпер патрабаванні да кандыдатаў у члены Саюза пісьменнікаў больш строгія, таму патрабуецца разгляд іх творчасці і на бюро адпаведных секцый.

Ёсць і яшчэ адна, прытым істотная розніца, паміж тымі, хто падаваў заяву раней і цяпер. У савецкія часы ў Саюз пісьменнікаў многія ўступалі са спадзяваннем, што гэтая арганізацыя дапаможа ва ўладкаванні быту, а то і матэрыяльна. Лягчэй стане і з выданнем кніг.

Цяпер жа пытанне па сутнасці стаіць так: не што саюз дасць мне, а што я дам саюзу. Аднак заяў не меншае і гэта не можа не радаваць — стаць членам творчага саюза для многіх з'яўляецца духоўнай патрэбай. А яшчэ сярод маладых літаратараў — людзі па-сапраўднаму ўлюбёныя ў літаратуру. Кожны з іх не толькі сам піша творы, але і шмат робіць для прапаганды мастацкай літаратуры.

Усе гэтыя аспекты і закраналіся на пасяджэнні, якое вёў старшыня бюро секцыі паэзіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі. Выступілі намеснік старшыні бюро секцыі Эдуард Акулін, Кастусь Жук, Іван Малец, Уладзімір Скарынкін, Анатоль Сыс, Яўген Хвалей. Быў зроблены дэталёвы аналіз творчасці маладых паэтаў, а кожны з іх, як вынікае з абмеркавання, па-свойму адметны. Паэзія А. Пяхоты, для прыкладу, вельмі адухоўленая. Яе кніга "Дом колдуньи" вызначаецца глыбінёй паэтычнай думкі. Для твораў А. Пяхоты характэрна высокая культура пісьма, яна з поспехам працягвае традыцыі рускай літаратуры. З. Вішнёў — смела эксперыментуе. Свой голас у В. Русілкі і А. Лісіцкага. В. Русілка працуе выкладчыкам ва універсітэце, А. Лісіцкі — журналіст. Добра ведаюць жыццё, прыхільнікі традыцыйнай паэзіі. А. Бабаед — па прафесіі ўрач, а калі канкрэтней — урач-дыягностык. Але яму даводзіцца змагацца (як паэту) з яшчэ адной хваробай — бездухоўнасцю.

Усе згаданыя маладыя аўтары рэкамендаваны для ўступлення ў СБП.

З прыходам на пасаду новага старшыні бюро, секцыя паэзіі актывізавала сваю дзейнасць. У бліжэйшых планах — сустрэча з дзецьмі, якія праходзяць лячэнне ў аздараўленчым цэнтры Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь, прэзентацыя кнігі "Браслаўшчына азёрная мая", а таксама правядзенне на Ганцаўшчыне, у вёсцы Малыя Круговічы, свята вуліцы Віктара Гардзея. Што ж, паэзія не толькі нябесная, але і зямная госця.

**Віктар РУНЕВІЧ**

ДРУК

## Шлях да дзяржаўнасці

У любой краіне пытанні станаўлення нацыянальнай дзяржаўнасці пастаянна знаходзяцца ў полі зроку даследчыкаў. Тым большая цікавасць да іх у дзяржавах, якія на шлях самастойнага развіцця сталі не так і даўно. Беларусь, як вядома, у гэтым сэнсе не выключэнне. І хоць можна гаварыць, што свайго роду правобразам Беларускай дзяржавы было яшчэ Полацкае княства, тым няменш факт застаецца фактам: даўняя мара беларусаў — жыць у сваёй краіне — пачала ажыццяўляцца толькі пасля кастрычніцкіх падзей 1917 года. Але шлях да дзяржаўнасці быў нялпростым. Этапы на ім — Беларуская Народная Рэспубліка, Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка і, нарэшце, Рэспубліка Беларусь. Гэта — звенні аднаго ланцуга. У адным месцы ён больш трывалы, у другім — менш, але кожную з падзей не выкрасліш з нацыянальнай гісторыі. І да кожнай неабходна звяртацца неадноньчы, каб найбольш глыбока, грунтоўна, а галоўнае, аб'ектыўна высвятліць, што і як было, пазнаць урокі гісторыі, бо гісторыя заўсёды ідзе на карысць будучаму, калі тыя, хто звяртаецца да яе, старанныя "вучні". Аднак у такім важным пытанні як станаўленне нацыянальнай дзяржаўнасці могуць быць розныя погляды, а знайсці ісціну лёгка толькі тады, калі дэталёва прааналізаваць ацэнкі многіх даследчыкаў, каб знайсці патрэбную залатую сярэдзіну.

У пошуку яе нямала даюць і працы вядомага гісторыка — доктара юрыдычных навук, прафесара, галоўнага супрацоўніка Інстытута філасофіі і права Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Вадзіма Круталевіча. Вадзім Андрэевіч да згаданых праблем звяртаецца даўно, аб чым засведчылі яго манаграфіі "Нараджэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі" ў двух тамах, "На шляхах нацыянальнага самавызначэння" і іншыя. І вось новая манаграфія — "Гісторыя Беларусі: станаўленне нацыянальнай дзяржаўнасці (1917—1922 гг.)", што выйшла пад эгідай Інстытута філасофіі ў серыі "Гісторыя Айчыны", якая з'яўляецца дадаткам да часопіса "Права і эканоміка".

Новае даследаванне — арганічны працяг папярэдніх прац В. Круталевіча, але гэта разам з тым і заглыбленне ў праблему на якасна новай аснове. Аўтар у сваіх аргументацыях і высновах спасылаецца на даследаванні, што з'явіліся па гэтым пытанні ў апошні час, карыстаецца архіўнымі матэрыяламі Масквы, Санкт-Пецярбурга, Мінска, Магілёва, Гомеля, прыцягвае сведчанні перыядычнага друку адпаведнага перыяду, звяртаецца да зборнікаў дакументаў, у тым ліку і рэдкіх, якія не адно дзесяцігоддзе знаходзіліся ў "спецсховах". Пановаму прачытвае ён і працы тых, хто яшчэ нядаўна лічыўся непераўзыдзеным аўтарытэтам, у тым ліку і па праблемах развіцця нацый.

Справа ў тым, што многія выказванні нават таго ж Леніна па сутнасці замоўчваліся, як і гэтае, што прагучала ў прамове на І Усерасійскім з'ездзе ваеннага флоту, які праходзіў 5 снежня 1917 года: "Нам кажуць, што Расія раздробніцца, распадзецца на асобныя рэспублікі, але нам няма чаго баяцца гэтага. Колькі б ні было самастойных рэспублік, мы гэтага баяцца не станем. Для нас важна не тое, дзе праходзіць дзяржаўная граніца, а тое, каб захоўваўся саюз паміж працоўнымі ўсіх нацый для барацьбы з буржуазіяй любой нацыі". І атрымліваецца, што віна ў замаруджванні стварэння беларускай дзяржаўнасці кладзецца на "кіруемыя бальшавікамі павятовыя, губернскія з'езды Саветаў і абласныя органы ўлады", якія не ставілі гэтага пытання.

Вадзім Круталевіч, імкнучыся быць як мага больш аб'ектыўным, закранае розныя аспекты гэтай праблемы. Вялікая ўвага ў даследаванні ўдзелена палітычным сілам, якія былі апазіцыйнымі бальшавікам, вынікам чаго і стала ўтварэнне БНР. Фактычны матэрыял выкарыстоўваецца так, каб ён дапамагаў пошуку ісціны. В.Круталевіч далёкі ад думкі дзяліць факты на "зручныя" і "нязручныя". Для яго важна, каб тыя ці іншыя падзеі, з'явы паўсталі ў іх першастпеннай сутнасці.

Гэта тычыцца і дзейнасці БНР. Прынамсі, важны такі вывад: "Палажэнні Устаўных грамат БНР у вядомай ступені "стыкуюцца" з канцэпцыяй прававаой дзяржавы. У граматах ўтрымліваліся ідэі, якія цяпер з перабудовай грамадства па "заходняму ўзору" прызнаюцца як дасягненне сусветнай палітычнай культуры. Гэта свабода слова, друку, сходаў, забастовак, саюзаў, свабода сумлення, недатыкальнасць асобы і жылля, васьмігадзінны рабочы дзень, і раўнапраўе нацый. Нарэшце, і гэта самае галоўнае, прызнанне прыватнай уласнасці як асновы свабоды асобы. Стварэнне Устаўнога сейма Беларусі меркавалася на асновах усеагульнага, роўнага, прамога, тайнага і прапарцыянальнага выбарчага права".

У асобным падраздзеле расказваецца пра Слуцкае паўстанне, дзе В.Круталевіч таксама апяруе важнымі фактамі. І пра якія б падзеі ён ні гаварыў, абавязкова разглядае іх і праз ліс канкрэтных удзельнікаў. У сувязі з гэтым прыемна, што ў манаграфіі ўвайшоў раздзел "Янка Купала аб нацыянальна-дзяржаўным адраджэнні". Даследчык закранае такія моманты, як "Адносіны да нацыянальнай палітыкі Савецкай Дзяржавы", "Перадумовы стварэння беларускай дзяржаўнасці".

А на заключэнне аўтар перакідвае мост у дзень сённяшні, дзе разважае аб ідэйных асновах беларускай дзяржаўнасці.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

АБСЯГІ

ВІЦЕБСК...

## Сакрэты старых майстроў

Дамы рамёстваў з'явіліся ў Віцебскай вобласці ў 1988 годзе. Такія ўстановы культуры для народных майстроў і іх вучняў былі першымі на Беларусі. Цяпер у вобласці на аднаўленне і захаванне нашай спадчыны працуе 19 дамоў рамёстваў і 22 клубы майстроў. Галоўны мастак абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці Ніна Федарыстава называе сярод найбольш адметных настаўнікаў ганчароў Уладзіміра Татарыса (Гарадок), Міхаіла Шэкіна (Дуброўна), Ніну Кузьмінаву (Браслаў), мастачак па дыванах Ганну Кураловіч (Шаркоўшчына), Лідзію Каляга (Докшыцы).

## Аднаўляюцца манастыры

Манаства, якое было амаль знішчана на Беларусі, пакрысе ўсталёўваецца і на тэрыторыі Віцебскай епархіі. Зараз тут працуе Куцеінскі Багаяўленскі мужчынскі і Свята-Успенскі жаночы манастыры. Па словах архіепіскапа Віцебскага і Аршанскага Дзімітрыя, хацелася б аднавіць і Маркаў мужчынскі манастыр у Віцебску і Свята-Духаў жаночы. Будзе пабудаваны ў абласным цэнтры і духоўна-культурны цэнтр. Сёлета з'явіцца будынак, а да 2000-годдзя хрысціянства будзе завершана афармленне.

**Святлана ГУК**

БРЭСТ...

## "Люблю цябе, Белая Русь"

У вобласці праходзяць занальныя конкурсы на лепшае выкананне патрыятычнай песні "Люблю цябе, Белая Русь". Журы выбірае лепшых сярод самадзейных калектываў самага рознага накірунку. Заключныя мерапрыемствы адбудуцца 8—9 траўня ў Брэсце. Патрыятычныя песні будуць гучаць у выкананні эстрадных ансамбляў, народных калектываў, а таксама бардаў.

Адначасова на Брэстчыне праходзяць традыцыйныя агляды-конкурсы сучаснай эстраднай музыкі "Рытмы маладосці". Заключны фестываль запланаваны на чэрвень.

**Святлана ГУЛЯЕВА**

МАГІЛЁЎ...

## Фільм пра Пушкіна

У гонар 200-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна па рашэнні Міністэрства культуры ў Бабруйскім раёне пачаліся здымкі дакументальнага кінафільма, прысвечанага паэту. Здымкі адбываюцца ў вёсцы Цялуша, дзе пахавана ўнучка Пушкіна — Наталля Аляксандраўна Варанцова-Вільямінава. Аўтар сцэнарыя Г.Чыгір узяў за аснову кнігу былога настаўніка адной з бабруйскіх школ, выкладчыка Брэсцкага педінстытута Ц.Ліякумовіча "Нашчадкі Пушкіна на Беларусі". 6 чэрвеня ў Цялушы пройдуць святочныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да юбілею паэта.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

ГОМЕЛЬ...

## Пленэр памяці акадэміка

Калегія Міністэрства культуры, упраўленне культуры аблвыканкама, праўленне абласной арганізацыі Саюза мастакоў і Буда-Кашалёўскі райвыканкам прынялі пастанову аб правядзенні ў Буда-Кашалёве міжнароднага пленэру жывапісцаў, прысвечанага памяці народнага мастака СССР, акадэміка жывапісу Яўсея Яўсеевіча Маісеенкі. Пленэр пройдзе на радзіме гэтага выдатнага майстра, які нарадзіўся ў гарпасёлку Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёна. У пленэры, які адбудзецца ў другой палове чэрвеня і на пачатку ліпеня, прымуць удзел мастакі з Беларусі, Санкт-Пецярбурга, Бранска, Чарнігава, Жытоміра. Потым адкрыецца выстава работ яго ўдзельнікаў. У Буда-Кашалёве будзе створаны музей-галерэя.

## Выстава юных

У ранейшыя часы пастаянна наладжваліся сумесныя выставы мастакоў Гомеля, Бранска, Чарнігава. Арганізоўваліся і персанальныя вернісажы. Потым прыйшло творчае зацішша. Але зноў адрадзілася добрая традыцыя! У абласным Палацы піянераў і навучэнцаў адкрылася выстава юных майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з трох братніх дзяржаў.

## Тур "Зорнай ростані"

Пасля фінальнага рэспубліканскага тэлевізійнага фестывалю-конкурсу маладых артыстаў эстрады "Зорная ростань", які праходзіў на пачатку красавіка ў Гомелі, распачаты гастрольны тур. Яго маршруты: Петрыкаў, Лельчыцы, Нароўля, Ельск, Хойнікі, Брагін, Буда-Кашалёва, Ветка.

## Юбіляр — майстра керамікі

Споўнілася 50 гадоў вядомаму на Беларусі керамісту Васілю Міхайлавічу Фею. Нарадзіўся ён у глыбінцы палескага краю. Шмат гадоў жыве ў Гомелі. Яго персанальная выстава праходзіла ў Калінкавічах, Нароўлі, Мазыры, а цяпер пераязджае ў Хойнікі.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ГРОДНА...

## Пачаў шэсце фестываль

Трэці Усебеларускі фестываль нацыянальных культур, заключныя мерапрыемствы якога традыцыйна, раз у два гады праходзяць у Гродне, пачаў сваё шэсце па Беларусі. У аддзеле культуры гарвыканкама адбылася сустрэча з кіраўнікамі мясцовых нацыянальных суполак. На працягу года фестываль адбудзецца ва ўсіх рэгіёнах Беларусі. 26 красавіка яго абласны тур плануецца ў Віцебску, 30 — у Гродне. У Ашмянах, Воранаве, Бярозаўцы і іншых кутках Гродзеншчыны пройдуць канцэрты восьмага фестывалю польскай песні. У Бярозаўцы — песенны конкурс "Мальва-99". У Радуні, Мастах, Ваўкавыску — шосты дзіцячы фестываль польскай песні. У абласным цэнтры на пачатку траўня запланаваны Дзень культуры і мастацтва літоўцаў. У вёсцы Крэва пройдзе ў ліпені Дзень Міндаўгаса. Гэта далёка не поўны пералік мерапрыемстваў фестывалю. Напрыклад, ужо зараз у абласным метадычным цэнтры народнай творчасці адкрыта выстава нацыянальнай вышыўкі, якую падрыхтавала таварыства ўкраінцаў "Барвінак". Вядома ж, заявяць аб сабе і іншыя нацыянальныя суполкі. Старшынёй аргкамітэта фестывалю абраны намеснік міністра культуры В.Гедройц, старшынёй журы — народны артыст Беларусі М.Дрынеўскі.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

## Лепшых чакаюць узнагароды

**У Мінску ўчора ўрачыста адкрыўся IV Фестываль праваслаўных песняспеваў, які праводзяць Беларускі Экзархат, Міністэрствы культуры і адукацыі Беларусі. Удзельнічаюць аматарскія свецкія і царкоўныя харавыя калектывы нашай краіны, а таксама госці з Балгарыі, Польшчы, Расіі. Сёння і заўтра ў Белай зале Палаца культуры прафсаюзаў праходзяць конкурсныя праслухоўванні. У нядзелю — закрыццё фестывалю: у Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі пройдзе ўзнагароджанне пераможцў і гала-канцэрт.**

## Кітайскае мастацтва ў Полацку

**Экспанаты Нацыянальнага музея гісторыі Тайваня выстаўлены ў Полацкім музеі беларускага кнігадрукавання. Прадметы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з бронзы, дрэва, фарфору XIV—XVIII стагоддзяў да нашай эры, традыцыйны кітайскі жывапіс знаёмяць палачан з багатай культурай Усходу.**

## Гарадскі раманс на вернісажы Крошкіна

**Алег Крошкін — адзін з прадстаўнікоў віцебскай сучаснай мастацкай школы. Яго творчасць — непаўторны свет чалавека, улюбёнага ў жыццё і свой горад. Мастака называюць спеваком гарадскога рамансa, Зошчанкам у жывапісе, віцебскім фалькларыстам.**

**На выставе Крошкіна, што адбылася ў Віцебскім мастацкім музеі, прыхільнікі таленту жывапісца былі зачараваны адмысловым стылем, каларытнымі фарбамі яго работ.**

**Святлана ГУК**

## Аб прыгожым штомесяц

**Штомесячныя сустрэчы сяброў Гомельскага аддзялення Беларускага літаратурнага саюза "Полоцкая ветвь" набылі новую форму. Цяпер гэта ўжо не чытанні вершаў у вузкім коле калег-літаратараў, а падрыхтаваныя сумесна з абласным краязнаўчым музеем тэматычныя вечарыны — у першую чаргу для моладзі, якая любіць паэзію. Праходзяць яны ў зале Паляўнічага доміка — помніка архітэктуры пачатку XIX стагоддзя, які з'яўляецца мастацкім аддзелам краязнаўчага музея.**

**"Каханнем даражыць умейце" — пад такой назвай тут прайшла вечарына, у першай частцы якой заслужаная артыстка Беларусі Ніна Карнеева выступіла (як заўжды бліскуча) з літаратурнай кампазіцыяй па творах Барбюса, Пушкіна, Чэхава. Затым са сваімі новымі вершамі аб каханні пазнаёмілі прысутных паэты літсаюза "Полоцкая ветвь". Слухачы — вучні журналісцкага класа школы N 44 і літаратурнага класа 56-ай школы-ліцэя — выказалі зацікаўленасць у тым, каб такія сустрэчы адбываліся рэгулярна.**

**Плануецца, што ў творчых вечарынах будуць браць удзел і пачынаючыя паэты.**

**Алег АНАНЬЕЎ**

*г. Гомель*

## Вечарына маладых літаратараў

**У сталічным Доме літаратара 28 красавіка пры падтрымцы Саюза беларускіх пісьменнікаў у 17.30 пройдзе вечарына маладых літаратараў.**

**Адбудуцца выступы паэтаў самых розных творчых накірункаў — ад усім добра знаёмага рэалізму да дэмакратычнага транслагізму: Усевалад Гарачка, Павел Гаспадыніч, Серж Мінскевіч, Віктар Жыбуль, Ксенія Брэчка, Алена Занкавец, Вальжына Морт і многія другія будуць чытаць свае творы. Па словах арганізатараў, у праграме вечарыны ёсць і музычная частка: выступяць гурты "Жах", "Правакацыя", "Барадаты Грынвіч", "Экстра-тэрыторыя", "Навігатар". Дарэчы, лідэр гурта "NRM" Лявон Вольскі паабяцаў арганізатарам: "Калі ў нас не атрымаецца выступіць, мы падтрымаем маладых творцаў сваёй прысутнасцю ў зале".**

**З. В.**

З'ЕЗДЫ

# Мова павінна быць па-над палітыкай...

Канец стагоддзя выпрабоўвае нацыянальнае беларускае і самі беларусаў надзвычайна. Тым, хто не хоча пакідаць мову і пазбаўляцца краіны, даводзіцца няпроста...

З 1989-га года, з часу свайго ўтварэння, Таварыства беларускай мовы стараецца абудзіць і напоўніць суайчыннікаў Адраджэннем. Занятак адказны, тонкі і цягамотны, яму — канца краю няма, і хіба што самы заяты беларусафоб альбо цынік вызначыць сёння стан беларускай мовы ў краіне як хаця б здавальняючы.

На прайшоўшым тыдзень таму ў сталічным Доме літаратара чарговым, шостым, з'ездзе ТБМ пра гэта ва унісон, хай па-рознаму, гаварылі ўсе. Ад старшыні арганізацыі Генадзя Бураўкіна да запрошанага на мерапрыемства намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Івана Пашкевіча. Дарэчы, у адрозненне ад папярэдняга на гэтым з'ездзе бралі ўдзел, як і павінна быць у нармальнай дзяржаве пры вырашэннях моўных праблем, ажно некалькі прадстаўнікоў уладаў. Прыйшлі міністр адукацыі В. Стражаў, намеснік міністра культуры В. Гедройц, старшыня Дзяржкамітэта па друку М. Падгайны, намеснік старшыні Дзяржтэлерадыёкампаніі У. Купрыенка. Карацей, асобы, што маюць непасрэднае дачыненне да таго, якім чынам прысутнічае беларуская мова ў дзяржаўных уладных інстытутах, у школах, сродках масавай інфармацыі.

А прысутнічае яна, на жаль, і блізка не ў належным дамінуючым статусе. Гісторык Валянцін Грыцкевіч з Санкт-Пецярбурга назваў тое, што адбываецца на беларускай тэрыторыі ў адносінах да тутэйшага насельніцтва, лінгвацыдам і мнемацыдам (ад лац. "мнема" — памяць). А рэчаіснасныя ілюстрацыі да гэтага дэлегаты з'езда напрамаўлялі столькі, што, здавалася, горкай праўдзе, абурэнню і жалю межаў няма.

...Першая праграма радыё вяшчае па-руску прыкладна палову, а па-беларуску толькі чвэрць усяго эфірнага часу (астатні займае музыка без слоў і музыка на словы іншых моў). У краіне працьма расійскіх тэлевізійных каналаў на адзін нацыянальны, на якім беларуская мова гучыць зусім не пераважаючы. Калі ў 1953-54 гг. па-беларуску навучалася 82,6% дзяцей, то ў 1998-99 гг. — толькі 20,7%. У аспірантуры Акадэміі навук скасавана вывучэнне беларускай мовы... У Беларусі да гэтай пары няма Нацыянальнага універсітэта, дзе б усе прадметы выкладаліся на мове беларускай, хаця першыя сем тысяч подпісаў за яго стварэнне ўжо ляжаць у Міністэрстве адукацыі...

Дарэчы, у бліжэйшы час пабачыць свет "шэрая" кніга, дзе ТБМ фіксавала ўсе праявы дыскрымінацыі беларускай мовы ў апошнія гады.

Не дзіва, што ў прысутнасці людзей ад улады шмат гаварылі выступоўцы пра ролю дзяржавы ў адраджэнні мовы і пра пажаданы асабісты прыклад высокапастаўленых чыноўнікаў ва ўжыванні беларускай мовы. Генадзь Бураўкін заўважыў, што нават у новай рэдакцыі Закона аб мовах гаворыцца, што чыноўнікі "павінны валодаць беларускай і рускай мовамі" ў аб'ёме, неабходным для выканання сваіх службовых абавязкаў. Быў прыгаданы (літаратурныя класікі прысутнічалі на з'ездзе ў цытатах) Якуб Колас, які пісаў, што "калі самыя высокія чыноўнікі загавораць па-беларуску, то і народ будзе гаварыць на сваёй мове". І не толькі на адмысловых мерапрыемствах, як з'езд Таварыства беларускай мовы.

Таму гасцей з міністэрскімі партфелямі і іхнія прамовы прывіталі стрымана. В. Стражаў падаў амаль класічную справаздачу аб дзейнасці Міністэрства адукацыі, перанасычаную інфармацыяй. Але экспромтава — у адказах на цыдулкі — ён выглядаў значна жвавей. Аднак усё ж не патлумачыў, у чым карысць працэсу беларусізацыі, калі падручнікі друкуюцца ўжо не ў Расіі, а ў Беларусі? Мова ж іх застаецца той жа — руская. А на хітрае пытанне аб колькасці беларускамоўных дзіцячых садкоў выявіў здаровы аптымізм і — шчырасць: "Не ведаю, але яны ёсць!" Безумоўна, ёсць, але іх па пальцах пералічыць можна.

А вось Іван Іванавіч Пашкевіч адразу адзначыў, што "гаварыць пра лёс беларускай мовы з болем ёсць усе падставы". А калі намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта пахваліўся, што дочкі яго вучацца ў беларускамоўных класах, і сказаў, што нават калі б у Беларусі было 50%, нават 60% беларускамоўных школ, і гэта было б усё роўна яшчэ кепска, зала задаволена загула.

На думку І. Пашкевіча, каб забяспечыць нармальнае развіццё беларускай мовы, неабходна "моўную праблему вывесці з палітыкі, бо на гэтым з абодвух бакоў спекулююць". Іван Іванавіч заклікаў "працаваць спакойна, без надрыву" і пажадаў пазбавіцца ад стэрэатыпу, што ўсе, "хто працуе з прэзідэнтам — ворагі беларускай мовы". Пра тое, што варта разводзіць мову і палітыку, што павінна так быць, гаварылі на з'ездзе часта. Раней ТБМ, грамадская арганізацыя, цярпела страты ад пастаянных атаясамліванняў з БНФ. Таму новаабраны старшыня ТБМ Алег Трусаў заявіў, што пакідае свае "палітычныя" пасады, як таго патрабуе Статут арганізацыі.

Найбольш трапна выказалася Вольга Іпатава: "Мова павінна быць па-над палітыкай". Менавіта па-над палітыкай, а не па-за ёй. Генадзь Бураўкін сказаў, што "мітынговая пара адыходзіць", і наперадзе — "чарнавая справа", што ў цяперашніх умовах адкрыццё новага беларускага дзіцячага садка ці школы дасць больш, чым самая палымяная прамова.

**Кірыла ПАЗНЯК**

ТЭАТР

# З легенды ў легенду

***Прафесійна зносіцца са стаўпамі рэжысуры, — што можа быць больш важным, больш вабным для зацікаўленых беларускіх пачаткоўцаў? Праўда, Уладзіміра Савіцкага пачаткоўцам ніяк не назавеш. Яго пастаноўкі ў тэатры-студыі "Абзац" і на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы сведчаць пра пэўную творчую сталасць, але нароўні з ёю — і пра гатоўнасць вучыцца, змяняцца, пераўвасабляцца...***

***Люты і сакавік сёлетняга года Уладзімір Савіцкі бавіў у Маскве, у Тэатры на Таганцы, ля мэтра рэжысуры Юрыя Любімава.***

— Патрапіў туды з дапамогай нашага Міністэрства культуры, — просіць удакладніць Савіцкі для зацікаўленых беларускіх рэжысёраў, каб тыя, маўляў, ведалі, куды звяртацца па дапамогу, — з дапамогай Валерыя Раеўскага, мастацкага кіраўніка Купалаўскага тэатра. Вось Раеўскі можа назваць сябе вучнем Любімава ў поўным сэнсе слова. Мне — проста пашанцавала. Пашанцавала яшчэ ў 1976 годзе — пазнаёміцца з легендарным Тэатрам на Таганцы, калі чэргі па білеты туды стаялі па начах, калі, паводле крытыкаў, меў месца канфлікт між глядзельнай залаю ды сцэнаю, бо партэр запаўнялі тыя, хто білеты даставаў без чэргі...

Гісторыя Таганкі выклікае пачцівасць і захапленне. Кожны спектакль тых легендарных часоў — як успышка маланкі. Тады я, шмат чаго не разумеючы ў самой тэхналогіі стварэння відовішча, хораша запомніў свае пачуцці: акцёры працавалі так, быццам бы ніколі больш не выйдуць на сцэну і трэба выгаварыцца цяпер, дайграць зараз жа...

Няхай сцвярджаюць, што век Таганкі скончыўся — ёсць аб'ектыўныя законы тэатральнага развіцця. Але я трапіў у тэатр, калі Юрый Любімаў больш успрымаецца чалавекам свету, чым прадстаўніком пэўнага тэатра і пэўнай краіны. А сам тэатр, праўда, у складаным перыядзе. Усё далей ад легенды пра сябе.

Самым вялікім маім уражаннем сталася тамтэйшая тэатральная дысцыпліна. Хутчэй, рэжым у самым высокім сэнсе гэтага слова. Без яго немагчыма зрабіць нешта вартае, адметнае, вялікае. Гэта не прынука, не страх, але вялікая павага да акцёрскай працы і да асобы Юрыя Любімава. Яго загады выконваюцца вокамгненна, ягонае меркаванне — рашаючае, давер да яго найвялікшы. Я ніколі не бачыў, каб ён памыляўся.

Здаецца, у рэпетыцыях з дзевяці раніцы і да шасці вечара таганкаўцы шукаюць і задавальнення, і здаволенасці. А ўвечары — спектакль, а пасля — сустрэчы з публікай, праца па-за тэатрам. Калі б акцёрам гэта не падабалася, іх ніхто б не мог прымусіць так жыць. Ні за якія грошы.

У Таганкаўскім тэатры (вялікім, дарэчы) так будуюцца дачыненні, што галоўным і рашаючым застаецца акцёр. Няма ніякіх іншых праблем ды клопатаў. Ад вахцёра да дырэктара-распарадчыка — усе на баку акцёра.

Маё эмацыйнае ўспрыманне Таганкі пасля першых трох дзён змянілася ўваходжаннем у тамтэйшы рэжым і сталымі назіраннямі, якія я падагуліў у тры пункты. Першы — ідэальная рэжысёрская падрыхтаванасць да рэпетыцый. У нашых тэатрах, для параўнання, бывае, што рэжысёр не ведае, з чаго збіраць наступную сцэну, эпізод. Так, таганкаўцы не цураюцца імправізацый, жартаў, камікавання, розыгрышаў, але рэжысёр заўжды ведае дакладна, чаго ён хоча і чаго мусіць даўмецца на рэпетыцыі. Няўдалая рэпетыцыя не азначае марнавання часу.

Другі пункт маіх назіранняў — падрыхтаванасць да работы акцёраў. У дзевяць гадзін раніцы яны размінаюцца. Разам з імі — майстар Любімаў. Вытрымаць ягоны націск з дзесяці раніцы — да шасці вечара можна толькі аднадумцам ды паплечнікам, але ніяк не падначаленым. Яны — як адна сям'я. "Адна банда", — жартаўліва кажуць яны пра сябе. Кожны гатовы іграць... любую ролю! Рэпетыцыі не адмяняюцца ні з-за хваробы, ні з-за занятасці ў іншых месцах.

Дарэчы, трэці пункт маіх назіранняў тычыцца якраз падрабязнасці любімаўскіх рэпетыцый. Усё — кожны нюанс тэксту, кожны знак ды інтанацыя — разбіраецца самым падрабязным, самым дакладным чынам. Усё адточваецца. Чалавека збоку гэта можа раздражняць. Але "маленькая няпраўда, — кажа Любімаў, — цягне за сабой большую няпраўду, і так можна сылгацца зусім".

Разбіраючы матэрыял на рэпетыцыях, Юрый Любімаў можа зрабіць адступ хвілін на дваццаць і паразважаць пра ўзровень прафесійнасці, пра літаратуру, пра падзеі ў Расіі, пра жыццё. Гэткія лекцыі філасофскага, эстэтычнага, маральнага зместу. Ніхто не сыходзіць за кулісы, бо можна прапусціць штосьці вельмі важнае. Так мэтр выхоўвае трупу — паплечнікаў, аднадумцаў.

Ягоныя рашэнні выклікаюць захапленне, — на сцэне нічога лішняга. Я заспеў прэм'еру "Шарашкі" паводле Салжаніцына (да юбілею пісьменніка), — складана паставіліся да гэтага спектакля і ў Маскве, і ў тэатры. Час, здаецца, сплыў, — лагеры, ГУЛАГ, Сталін. Аднак Любімаў, абагульняючы, кажа пра рабства, пра гвалт, пра тое, якія формы яны набудуць хутка і нахутка...

"Марат-Сад" Вайса праўжываецца на сцэне з азартам гульцоў і з заглыбленнем філасофаў. А да трыццаціпяцігоддзя тэатра Любімаў аднаўляе "Добрага чалавека з Сезуана", — для Таганкі гэта як "Прынцэса Турандот" для вахтангаўцаў, як "Паўлінка" для купалаўцаў. На кожную ролю прызначаны па два чалавекі, — са сталых калегаў-паплечнікаў і мэтра і з маладзёнаў, якіх толькі-толькі запрасілі ў тэатр. Юрый Любімаў, аддаляючыся ад легенды, рупіцца пра будучыню сваёй Таганкі. Магчыма, такую ж легендарную...

**З Уладзімірам Савіцкім сутракалася Жана ЛАШКЕВІЧ**

Людміла ЛЯСУН

# Дзе нарадзіліся і ўскормлены...

## ПРА НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ І ДЗЯРЖАЎНУЮ ІДЭАЛОГІЮ

ПАНЯЦЦЕ "нацыянальная ідэя" аформілася як філасофскі і палітычны тэрмін у канцы XIX і пачатку XX стагоддзя, хоць яго сэнсавае значэнне ў якасці нацыянальнага інтарэсу, нацыянальнага пытання і нацыянальнага духу было ўласціва філасофскаму мысленню і грамадскай практыцы з даўніх часоў. Асабліва выразна выявілася ідэя нацыянальнай агульнасці і згуртаванасці ў гістарычны перыяд зараджэння капіталістычных адносін і ўзнікнення нацыянальных дзяржаў. Пазней паняцце "нацыянальная ідэя" стала ўзаконеным і стандартным тэрмінам у працах адметных філосафаў і палітыкаў.

Узнікае пытанне, у якой ступені паняцсты філаматаў і філарэтаў і былі высланы з Літвы-Беларусі. Нацыянальная ідэя, як дзяржаўная ідэя, выспявала падпольна. Царскія сатрапы добра разумелі, як і пазнейшыя "рэвалюцыйныя валадары", узаемазрошчанасць культуры і палітыкі, і гэта вылілася ў паўстанне 1863 года пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, канчатковай мэтай якога была заваёва дзяржаўнай незалежнасці Літвы-Беларусі.

Пасля падаўлення паўстання не толькі палітычнае, але і культурнае жыццё Беларусі амаль замірае на цэлае паўстагоддзе. Назіраюцца толькі маламоцныя ўсплёскі выяўлення нацыянальнага пачуцця і нацыянальнага кірунку мыслення. Аднак паступова грамадская незадаволенасць існуючай лаўёў пісаў: "У апошні час усё мацней і мацней чуюцца галасы, якія патрабуюць, каб мы не адставалі ў гэтым ад іншых народаў і таксама кіраваліся ў палітыцы выключна сваімі нацыянальнымі і дзяржаўнымі інтарэсамі, і ўсякае адступленне ад такой "палітыкі інтарэсаў" абвяшчаецца або дурнотай, або здрадай. Магчыма, у такім поглядзе ёсць непаразуменне, якое паходзіць ад неакрэсленасці слова "інтарэс": уся справа ў тым, пра якія менавіта інтарэсы ідзе размова. Калі бачыць інтарэс народа, як гэта звычайна робяць, у яго багацці і знешняй магутнасці,то пры ўсёй важнасці гэтых інтарэсаў несумненна для нас, што яны не павінны складаць вышэйшую і канчатковую мэту палітыкі, бо інакш імі можна будзе апраўдваць усякія злачынствы, як мы гэта і бачым".

У.Салаўёў нібы прадбачыў сталінскія часы, калі пад цяжкім покрывам абавязковай дзяржаўнай ідэалогіі тварыліся страшныя злачынствы. Маючы на ўвазе гэты крывавы прэцэдэнт нядаўняга мінулага і зыходзячы з факту гістарычнага вопыту, палітолагі і вучоныя-гуманітарыі ліберальна-дэмакратычнай арыентацыі ставяцца вельмі падазрона да спробаў укараніць нацыянальную ідэю як ідэю дзяржаўную ў грамадскае жыццё.

це "нацыянальная ідэя" гістарычна дастасоўваецца да палітычнага і духоўнага развіцця беларускага народа, да яго мінулага і сучаснага лёсу. Несумненна, што беларускі народ не з'яўляецца выключэннем з жыццядзейнасці ўсіх народаў свету. Нацыянальная самасвядомасць, як і рэлігійная і этнічная свядомасць, падпарадкоўвала важнейшыя сферы дзяржаўнага і духоўнага жыцця ўжо ў часы Сярэднявечча. Агульнавядомыя словы Ф.Скарыны: "Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя; птици, летающие по воздуху, ведають гнёзда своя; рибы, плавающие по морю и в реках, чують виры своя; пчёлы и тым подобная боронять ульев своих, — тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають".

Пачуццёвая ўзвышанасць адносін да родных мясцін, да роднага дому і з'яўляецца эмацыянальнай асновай узнікнення любові да роднага краю, якая спараджае ўсведамленне яго адзінства і падабенства людзей, якія яго насяляюць. Спачатку такія рысы выкрышталізоўваюцца ў душы самых развітых і душэўна чулых натур, а пасля, дзякуючы пісьменнасці і друкаванаму слову, даходзяць да шырокіх слаёў насельніцтва, абуджаючы этнаграфічную і нацыянальную свядомасць перш за ўсё перадавых колаў грамадства.

Адным з важнейшых аспектаў сцвярджэння нацыянальнай свядомасці з'яўляецца палітычная лінія дзяржаўных дзеячаў на абарону нацыянальных інтарэсаў. Гісторыя Вялікага княства Літоўскага напоўнена велізарнай колькасцю паспяховых, менш паспяховых і трагічных намаганняў выдатных людзей краю захаваць сваю самастойнасць і незалежнасць ад памкненняў Рэчы Паспалітай далучыць край да Кароны і намераў Маскоўскай дзяржавы завяваць тэрыторыі на Захадзе.

Гэтая асаблівасць грамадскага адчування (у выніку таго, што агітацыя за нацыянальнае самаўсведамленне ў Беларусі набыла запозненьі характар) у літаратурнай творчасці відавочна заўважаецца і сёння, хоць у рускай і польскай літаратурах падобны матыў у адкрыта дэманстратыўным выяўленні з'яўляецца выключэннем. Беларускія паэты зноў і зноў прызнаюцца ў любові да роднага краю, адчуваючы ў яго рамантызаваным абліччы духоўную крыніцу проста жыць і разумець свет.

Пасля падзелу Рэчы Паспалітай, калі тэрыторыя Беларусі апынулася ў складзе Расійскай імперыі, дзяржаўны аспект нацыянальнай ідэі знік з паверхні палітычнага жыцця, бо само палітычнае жыццё ў інтарэсах Беларусі стала немагчымым і каралася як злачынства. Нават культурная дзейнасць, накіраваная на пазнанне духоўных асаблівасцей беларускага народа, лічылася палітычна падазронай і выклікала суровыя рэпрэсіі з боку царскага ўрада. Пра гэта красамоўна сведчыць лёс А. Міцкевіча і яго сяброў па Віленскім універсітэце, якія ўваходзілі ў тайныя тавары-рэчаіснасцю нарастае. Нацыянальная ідэя ў яе змястоўным пафасе ўсё больш шырока і пранікліва пераходзіць у галіну мастацкай творчасці, асабліва на пачатку XX стагоддзя, хоць традыцыі мастацкага выяўлення нацыянальнага духу, хай сабе ў абмежаваных формах, існавалі, пачынаючы з XIX стагоддзя (Я.Баршчэўскі, В.Дунін-Марцінкевіч, Ф.Багушэвіч).

Вядома, змест нацыянальнай ідэі ў мастацкай творчасці не можа набыць у выніку спецыфікі мастацтва дакладных фармулёвак і азначэнняў, бо сам літаратурны вобраз не аднаначны ў паняццевым сэнсе. Гэты змест нібы разліты ва ўсёй пачуццёвай прасторы твора і нясе ў падтэксце культурная адлюстраванні ўсяго гістарычнага быцця народа. Аднак ён не абстрактны, бо складаецца з канкрэтных адчуванняў і пэўных душэўных перажыванняў канкрэтнага мастака слова.

Беларуская літаратура XIX — пач. XX стагоддзя з'яўляецца ў духоўнай гісторыі народа глабальным масівам мастацкай творчасці (Ядвігін Ш., Цётка, Я.Купала, Я.Колас, З.Бядуля, М.Гарэцкі, А.Гарун), у глыбінях якога мацнела і фарміравалася ў эстэтычным абліччы і ў сацыяльна-палітычных абрысах нацыянальная ідэя ў адпаведнасці з тымі задачамі, якімі Беларусь пакутавала ў дадзены момант і якія былі скіраваны ў будучыню. Кожны мастацкі вобраз, на першы погляд, магчыма, зусім просты, у беларускай літаратуры той пары выконваў пэўную задачу, адлюстроўваў надзею на прыход дзяржаўнай незалежнасці Беларусі.

Па-ранейшаму актуальным на сёння застаецца масавае выхаванне нацыянальнай свядомасці. Без яе не можа існаваць ніводзін народ з выразным нацыянальным абліччам, ніводная дзяржава з пэўным нацыянальным прызначэннем.

У сучасных сродках масавай інфармацыі, асабліва ў Расійскай Федэрацыі, бурна дыскутуецца пытанне аб неабходнасці існавання самога тэрміна "нацыянальная ідэя". Як вядома, прэзідэнт РФ Ельцын не так даўно выказаў прапанову, каб расійскія вучоныя-гуманітарыі выпрацавалі канцэпцыю нацыянальнай ідэі новай Расіі, што выклікала шматлікія водгукі ў прэсе. Пераважная большасць аўтараў, якія выказваліся па гэтай праблеме, не падтрымалі прапанову кіраўніка расійскай дзяржавы, выстаўляючы рэзон, што жорстка і канчаткова сфармуляваная нацыянальная ідэя можа лёгка ператварыцца ў ідэю дзяржаўную і ў выніку падпарадкаваць сабе ўсё грамадскае жыццё, навязваючы народу адзінадумства і звужаючы яго дэмакратычныя правы. Некаторыя з іх раілі замест паняцця "нацыянальная ідэя" карыстацца тэрмінам "нацыянальныя інтарэсы" як больш прагматычным і больш адпаведным палітычнай практыцы кожнай дзяржавы.

Праўда, у рускай гуманістычнай філасофіі ставілася пад сумненне пэўнае разуменне таксама і дзяржаўных інтарэсаў. Напрыклад, вядомы рэлігійны мысліцель У.Са-

У сучасных кіруючых колах як Расійскай Федэрацыі, так і Беларусі "нацыянальная ідэя" разумеецца, напрыклад, выключна як "ідэя дзяржаўная", што неправаверна і шкодна. Калі ў Расіі загаварылі пра неабходнасць распрацоўкі нацыянальнай ідэі, калі Ельцын выказаўся за актуальнасць існавання дасканалай нацыянальнай ідэалогіі, у Беларусі з самага пачатку ўзнікнення пытання нацыянальная аб'яднальная ідэя разумелася як праблема дзяржаўнай ідэалогіі.

Між тым "нацыянальная ідэя" і "дзяржаўная ідэалогія" далёка не адно і тое ж. Апошняя ідэалагізуе, а значыць і міфалагізуе ўсе галіны грамадскага жыцця і нясе ў сабе патэнцыю яго суровай рэгламентацыі, абавязковай прывязкі да пэўных пастулатаў, якія навязваюцца зверху, а гэта значыць — стварае ўмовы для аўтарытарнага дзяржаўнага праўлення. Таму зусім невыпадкова ў канстытуцыі Расійскай Федэрацыі зафіксавана ўстаноўка на плюралізм ідэалагічных канцэпцый і забараняецца любая дзяржаўная ідэалогія. У ёй сказана: "Ніякая ідэалогія не можа ўстанаўлівацца ў якасці дзяржаўнай або абавязковай".

Адсюль ідзе рэзкае непрыняцце ўсякай жорстка сфармуляванай ідэалогіі, разлічанай на ўсеагульную ўладнасць. Дзмітрый Шушарын піша ў "Литгазете": "Прэзідэнт прапанаваў сваім давераным асобам... заняцца выпрацоўкай нацыянальнай ідэі. Гэтак справы не робяць". І далей: "Барыс Ельцын на сустрэчы з даверанымі асобамі гаварыў аб ідэі, якая аб'яднала грамадзян Расіі ў адну дружную сям'ю. Але для шукаемага ёсць зусім канкрэтная назва — інтэграцыйныя каштоўнасці. Каштоўнасці, а не ідэі, не ідэалогія. Ідэі людзі прыдумваюць, а да ўсведамлення і прыняцця каштоўнасцей — дарастаюць". Паказальна, што рэзка адмоўна аб прапанове стварыць завершаную канцэпцыю ідэйнай арыентацыі Расіі выказаўся акадэмік Д.Ліхачоў. Характэрная назва артыкула Б.Васільева ў "Литературной газете" "Национальную идею в пробирке не вырастишь".

І ўсё ж, магчыма, у падобным падыходзе ёсць залішняя універсальнасць, бо для асобных краін, як, напрыклад, для сучаснай Беларусі, маштабныя, фундаментальныя, лёсаўтваральныя нацыянальныя ідэі ўяўляюць таксама вялікую духоўную каштоўнасць, што пацверджана іх відавочнай злучальнай моцай праз мастацкую літаратуру.

У Беларусі, дзяржаўнасць якой у адрозненне ад Расіі яшчэ не поўнасцю груntуецца на ўсеагульным нацыянальным самаўсведамленні, патрэбны хоць бы прыблізна акрэслены далягляд важнейшых нацыянальных прыярытэтаў і самазапатрабаванняў на аснове перш за ўсё ўласных гістарычна існуючых духоўных набыткаў. Патрабуецца нешта накшталт праграмы развіцця менавіта нацыянальнай дзяржавы Беларусь. Праўда, ажыццявіць падобную задачу сёння, бадай што, немагчыма з-за ідэйнага і палітычнага разброду ў поглядах на будучыню Беларусі. У выніку аказаліся амаль забытыя канцэптуальныя тэорыі адраджэння Беларусі ўласных нацыянальных філосафаў І.Канчэўскага (Абдзіраловіча), У.Самойлы, А.Луцкевіча (Навіны) і іншых. Напрыклад, І.Абдзіраловіч пісаў у 1921 годзе: "Дух нацыянальны заўсёды мацнейшы і чысцейшы ў народаў прыгнечаных"...

І вось пасля ініцыятывы Б.Ельцына ў блізкім да ўрада Беларусі асяроддзі таксама ўзнікла думка стварыць нешта падобнае на нацыянальную ідэю, распрацаваць сучасную канцэпцыю нацыянальнага самапазнання маладой беларускай дзяржаўнасці. У газеце "Рэспубліка" ад 8 чэрвеня 1996 года апублікаваны дакумент пад назвай "Ідэалогія беларускай дзяржаўнасці (асноўныя яе аспекты)", распрацаваная М.Ермаліцкім, А.Юркевічам пры ўдзеле і пад кіраўніцтвам тагачаснага памочніка прэзідэнта рэспублікі А.Слукі. Распрацоўка не засяроджвае ўвагі на абсягу нацыянальнай ідэалогіі. Прычым не аўтары агаворваюцца, што яны распрацавалі ідэалогію "дзяржаўнасці наогул", а не "ідэалогію дзяржавы" ў яе сучасным абліччы, што, відаць, і паслужыла асноўнай прычынай таго, што яна не была пушчана ў прапагандысцкі абыходак і засталася проста забытай. Яны пішуць: "...Каб пазбегнуць непаразуменняў, мы лічым за лепшае ўжываць не паняцце "ідэалогія дзяржавы", а паняцце "ідэалогія дзяржаўнасці". Справа ў тым, што паняцце "ідэалогія дзяржавы" можа быць звязана з ідэалогіяй праўчага ў кожны дадзены момант урада і стаць асновай для ідэйнай манаполіі. З другога боку, паняцці "ідэалогія дзяржавы" і "ідэалогія дзяржаўнасці", будучы генетычна аднароднымі, не з'яўляюцца тоеснымі. Дзяржаўнасць — гэта якасць грамадства, якое мае інстытут дзяржавы. Нельга не пагадзіцца з аўтарамі распрацоўкі, калі яны сцвярджаюць: "Зразумела, і беларуская дзяржаўнасць павінна мець навукова абгрунтаваную, апладнёную і сусветным вопытам, і ўласнай гісторыяй ідэалагічную сістэму, якая развіваецца і за ўдасканаленне якой пры дапамозе дэмакратычных працэдураў будуць спаборнічаць розныя грамадскія сілы". Так, усякая глыбока дзейсная ідэалогія павінна мець моцны навуковы грунт. Інакш якой бы ўплывовай яна на пэўны час ні была, бясслаўны канец яе прадвешчаны.

Рэзкая палітызацыя самога паняцця нацыянальнай ідэі надзвычай шкодная, бо яна зыходзіць з гатовых уяўленняў, якой быць нацыянальна самастойнай дзяржаве Беларусь. Сапраўды, нацыянальная ідэя выпрацоўваецца не ў прабірках і нават не ў выключна таленавітых галовах асобных інтэлектуалаў. Змест нацыянальнай ідэі выпрацоўвае сам народ у сваёй штодзённай практычнай дзейнасці, але не без удзелу нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. У першую чаргу — творчай, навуковай і літаратурнай. Ва ўмовах сучаснай Беларусі гэта асабліва актуальна, бо тут нацыянальная ідэя яшчэ не выканала сваёй усенароднай аб'яднальнай сілы. І менавіта незалежная дзяржава павінна падтрымліваць і планамерна арганізоўваць працэс пашырэння нацыянальнай ідэі ў шырокіх масах народа. Найбольш прыдатным механізмам умацавання і развіцця філасофіі нацыянальнага аб'яднання служаць гуманітарныя навукі і культура, асабліва мастацкая літаратура. Таму дзяржава абавязана іх падтрымліваць, калі-толькі яна зацікаўлена ў абароне, умацаванні і росквіце нацыянальнай незалежнасці дзяржавы Беларусь.

Вядома, не ўсе аднолькава разумеюць нацыянальную ідэю ў яе палітычных, ідэйных, духоўных і, урэшце, эканамічных вымярэннях. Сёння вымярэнні могуць быць розныя, але адна прынцыповая ўмова павінна выконвацца няўхільна ў палітычным, гістарычным і грамадскім жыцці Беларусі — умацаванне і росквіт нацыі дзеля ўмацавання і росквіту нацыянальнай незалежнай дзяржавы. У гэтым сэнс нацыянальнай ідэі.

КНІГАРНЯ

# Лёс беларускага апавядання

Усё больш і больш аддаляюцца ад нас 50—60-я гады — гады летуценных спадзяванняў і надзей, якія незалежна ад нас, радавых удзельнікаў тагачаснага жыцця, не спраўдзіліся.

Як цяпер помню: жылі мы прадчуваннем грандыёзных перамен, чакалі абяцанага камуністычнага раю, чыталі-перачытвалі апавяданні Я. Брыля, В. Быкава, І. Навуменкі, І. Чыгрынава, В. Адамчыка *пра свой лёс* — дзяцей вайны бязбацькавічаў. Чыталі ў інтэрнаце, дзе стаяла па 15, а то і больш ложкаў у вялікіх пакоях. Чыталі на лекцыях (сумных, нецікавых!), у "Ленінцы".

Глыбока кранала апавяданне М. Стральцова "Сена на асфальце", якое дало назву зборніку і сталася на дзесяцігоддзі афарызмам, сімвалам нашага нялёгкага, ды ўзнёслага жыцця.

Менавіта пра творы той пары — кніжка Яўгена Адамовіча, літаратуразнаўцы, крытыка, выкладчыка Беларускага універсітэта культуры, "Гармонія абставін — гармонія душы. Беларускае апавяданне 50—60-х гадоў", якая выйшла ў выдавецтве "Беларуская навука".

Кніжка цікавая па многіх параметрах. Папершае, ужо тым, што яна пра мастацкую творчасць часу, які мае відавочную пераклічку з нашым: мы ж і з сярэдзіны 80-х гадоў адчулі павевы перамен, пачалі спадзявацца на нешта лепшае, прыгажэйшае, вышэйшае, чым тое, што мелі. Пры агульным развале многіх *каштоўнасцей мы зараз не можам не верыць*, маем чарговы шанц вызваліцца з-пад уплыву трагедыйных абставін і непаразуменняў, бо і нашыя гады, як і гады хрушчоўскай адлігі (цытую аўтара кнігі): "сталі гадамі ўважлівага, пільнага стаўлення да чалавека, да яго паўсядзённых патрэб" у кантэксце "агульнай грамадскай атмасферы". Па-другое, мы павінны, думаецца, вітаць літаральна кожнае даследаванне пра жанравы стан, жанравую эвалюцыю і спецыфіку нашай нацыянальнай літаратуры, бо менавіта жанр — "памяць эпохі" (М. Бахцін), тая часцінка вечнага, агульначалавечага, як пісаў Д. Ліхачоў, "этыкетнага" ў слоўным мастацтве, якая непадуладна не толькі "малому", але і больш працягламу, "вялікаму" часу. Жанр — ахоўны шчыт любога мастацтва, якое хочуць прынізіць і прымусіць ідэалагізавацца, ператварыцца ў перадатчыка комплексу ідэй, у аморфную нейкую масу. І пра гэта пішацца ў кнізе Я. Адамовіча.

Па-трэцяе, праца мае шэраг відавочных прарываў у дакладнасць характарыстыкі эпохі, часу, многіх тэарэтычных паняццяў. Аўтару ўдалося правесці слушную думку у ёй пра "прарастанне" апавядання і на фальклорнай, і на літаратурнай аснове ("Жанр арыгінальнага пісьмовага апавядання канца XIX — пачатку XX ст. развіваўся пад непасрэдным уздзеяннем вуснага народнага апавядання, рэалістычнай казкі, рускага, украінскага, польскага апавяданняў"). Не менш арыгінальна высвятляе даследчык прычыны ўзлётаў і падзенняў малога жанру ў пэўныя перыяды XX стагоддзя. Так, напрыклад, вельмі ўдалымі ўяўляюцца назіранні пра негатыўны ўплыў тэорыі бесканфліктнасці на пасляваенны літаратурны працэс у цэлым і апавяданне, у прыватнасці, асабліва сюжэтнае (тым больш, што пра лірычнае ў той час мастакі нават і не думалі): "Найбольш шкодна ўплывала "тэорыя" бесканфліктнасці на сюжэтнае апавяданне. Вульгарнасацыялагічны падыход да канфліктаў выклікаў надуманасць сюжэту, ілюстрацыйнасць, схематычнасць вобразаў. Трафарэтны вобраз старшыні калгаса панаваў амаль ва ўсіх апавяданнях на калгасную тэму і часцей у ролі галоўнага героя".

Тонкім, прыкметным (пры нашым агульным нежаданні ці няўменні аналізаваць, расчытваць, расшыфроўваць творы малых жанраў) выглядае ў кніжцы аналіз апавядання Яна Скрыгана "Пава*ротак ля сасны*". З задавальненнем чытаем радкі пра тое, як, якімі прыёмамі дасягае пісьменнік эфекту праўдападобнасці паводзін галоўнага героя *шафёра Майбарады, тлумачыць яго, на першы* погляд, нечаканы паварот да дабрачыннасці дзей: "На службе ў Скрыгана цэлы комплекс мастацкіх сродкаў: разгорнутая кампазіцыя (...), дыялогі, лірычныя адступленні і пейзажныя замалёўкі, якія даволі ўдала мяжуюцца; партрэтны жывапіс і рытміка, інтанацыя". Прыведзеная цытата — заключная, падсумоўвае назіранні па кожнай яе састаўной часцы. Такіх хадоў, такога арганічнага сінтэзу агульнага з прыватным нямала ў рэцэнзуемым даследаванні.

Прачытаў на вокладцы, што кніжка выйшла з грыфам Міністэрства культуры як "вучэбны дапаможнік для студэнтаў вышэйшых і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў мастацтва і культуры". Адразу падумалася: як жа яе аўтар улічвае спецыфіку творчага студэнцкага кантынгенту? Пашукаў прыклады (і знайшоў) яе адпаведнасці інтарэсам будучых мастакоў, тэатралаў, культуролагаў. Хай сабе і не такія частыя, яны рассыпаны ў тэксце: аналізуючы апавяданне Кузьмы Чорнага ваеннай пары "Маленькая жанчына", аўтар выказваецца пра тое, як пад пяром мастака пры стварэнні партрэта Мадонны, пакутніцы "словы перайшлі ў мазкі, фарбы" і пры-водзіць прыклад з тэксту. Паболей бы такіх параўнанняў мастацтва слова з мастацтвам гукаў і фарбаў. І многае стала б зразумела будучым *мастакам пэндзля, якія са свайго асяроддзя* вылучылі паэтаў, празаікаў і драматургаў.

Яўген Адамавіч глыбока зразумеў і тонка разгледзеў апавяданні Я. Брыля і В. Быкава, І. Навуменкі і І. Чыгрынава, В. Адамчыка і І. Пташнікава. Ці не ўпершыню крытычна паставіўся да прозы паэтаў К. Кірэенкі, С. Грахоўскага, Е. Лось, асабліва да пралікаў першага, што вынікалі якраз з няўмення вывесці характары з абставінаў. Кніга атрымалася ў цэлым стройнай, доказнай, навукова выверанай.

А заўвагі датычацца некалькіх момантаў.

Момант першы: слабаваты ў працы навукова-метадычны апарат. Працы падобнага роду не пашкодзіў бы ўступ — зварот да адрасата. Да месца была б і хоць лаканічная бібліяграфія па праблемах развіцця малога жанру ў літаратуры 50—60-х гадоў. Большую ўвагу можна было засярodзіць і на інтэрпрэтацыі праблемы ў падручніках і вучэбна-метадычных дапаможніках (дзеля *параўнання*).

Момант другі: у кніжцы неапраўдана (па інерцыі з напісаным у "застойныя гады") захвальваецца апавяданне 30-х гадоў. Асабліва апалагетычным атрымаўся *аналіз* апавядання В. Каваля "Нянавісць" (1935).

Момант трэці: у заключным (хай сабе і невялікім, на 5—6 старонак) раздзеле варта было б паглядзець на апавяданні перыяду "адлігі" з пазіцый сучаснасці. А так з поля зроку аўтара выпалі сучасныя доследы пра азначаны перыяд.

Кніга "Гармонія абставін — гармонія душы", будзем спадзявацца, зацікавіць і спецыялістаў-філолагаў, і моладзь, якая цягнецца да ведаў, да новых звестак: чытаючы — шукае, шукаючы — чытае.

**Мікола МІШЧАНЧУК**

# Да юбілею Нацыянальнай Акадэміі...

Аддзел навуковай інфармацыі па гуманітарных навуках Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі выдаў да 70-годдзя акадэміі зборнік — "Гуманітарныя і сацыяльныя навукі на зыходзе XX стагоддзя". Гэта калектыўная манаграфія — вынік сумеснай працы амаль ста навукоўцаў усіх васьмі навуковых устаноў аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі. Пад адной вокладкай з'явіцца 96 навуковых артыкулаў вядомых беларускіх гуманітарыяў і 2 вялікія даведачныя матэрыялы.

У зборніку 10 раздзелаў. Першы і апошні (дзесяты) з'яўляюцца абагульняючымі і характарызуюць навукова-даследчую дзейнасць аддзялення ў цэлым.

Першы раздзел адкрываецца артыкулам прэзідэнта акадэміі А. Вайтовіча "Гуманітарныя і сацыяльныя веды ў сістэме акадэмічнай навукі", у якім вызначаецца роля гуманітарных навук і сацыяльных ведаў у развіцці акадэмічнай навукі Беларусі. У артыкуле "Стан і развіццё гуманітарных навук у Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі" акадэмік-сакратар аддзялення акадэмік А. Падлужны разглядае творчыя набыткі аддзялення за апошнія гады і тыя задачы, якія неабходна яму вырашыць у наступным.

У раздзеле змешчаны таксама артыкулы В. Шчэрбіна "Параўнаўчы аналіз развіцця гуманітарных і сацыяльных даследаванняў у акадэміях навук краін СНД у постсавецкі перыяд", В. Ляўковіча "Планы і вынікі работы аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі за 1988—1998 гг.". Завяршае раздзел артыкул Г. Карзенкі і І. Багданавай "Кадравы патэнцыял гуманітарных і сацыяльных навук: кароткі нарыс развіцця".

У другім і трэцім раздзелах падаецца плён працы супрацоўнікаў Інстытута філасофіі і права і Інстытута сацыялогіі. Варта адзначыць артыкулы члена-карэспандэнта НАН Беларусі, дырэктара Інстытута філасофіі і права А. Майхровіча "Нацыянальныя духоўныя традыцыі і беларуская ідэя" *і дырэктара Інстытута сацыялогіі*, акадэміка НАН Беларусі Я. Бабосава "Актывізацыя эканамічных паводзін сацыяльных груп у грамадстве, якое трансфармуецца".

Чацвёрты раздзел манаграфіі падрыхтаваны супрацоўнікамі Інстытута эканомікі. Адкрываецца ён артыкулам дырэктара Інстытута П. Нікіценкі "Наасферная мадэль як імператыў устойлівага развіцця Беларусі". Змешчаны артыкулы вядомых беларускіх вучоных-эканамістаў Г. Лыча, В. Мядзведзева, Э. Лутохінай, І. Абрамавай, І. Міхайлавай-Станюты і іншых.

Пяты раздзел прысвечаны вынікам даследаванняў супрацоўнікаў Інстытута гісторыі. *Першая, уласна гістарычная частка* гэтага раздзела адкрываецца артыкулам дырэктара інстытута акадэміка НАН Беларусі М. Касцюка "Гістарычны вопыт беларускага народа: вывучэнне і выкарыстанне". Змешчаны артыкулы вядомых беларускіх гісторыкаў М. Біча, Н. Васілеўскай, Р. Грыгор'ева, У. Навіцкага, У. Снапкоўскага, Л. Побаля, Г. Штыхава...

Асабліва цікавымі для чытачоў "ЛіМа" будуць шосты, сёмы і восьмы раздзелы, у якіх падаюцца артыкулы супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства і фальклору імя К. Крапівы, Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа і Інстытута літаратуры імя Я. Купалы. *Варта адзначыць артыкулы* акадэміка А. Падлужнага "Перспектывы моўнай палітыкі ў Беларусі" і В. Каваленкі "Філасофія нацыянальнага жыцця ў беларускай літаратуры XX ст.", члена-карэспандэнтаў НАН У. Гніламёдава "Ці ёсць будучыня ў літаратуразнаўства?", М. Мушынскага "Праблемы выдання класічнай спадчыны: вопыт мінулага, сучасны стан", А. Жураўскага "Беларуская мова і дзяржаўнасць у старажытнасці", У. Няфёда "Невядомыя старонкі гісторыі беларускага тэатра і яго напаўзабытыя традыцыі". Сярод аўтараў раздзела — таксама М. Піліпенка, В. Бандарчык, В. Жураўлёў, А. Фядосік, Р. Смольскі, М. Тычына, В. Чамярыцкі, У. Мархель, А. Крывіцкі і іншыя.

Глыбокаму аналізу разнастайных праблем і аспектаў сучаснага грамадазнаўства прысвячаюцца навуковыя артыкулы супрацоўнікаў і членаў Вучонага савета аддзела навуковай інфармацыі па гуманітарных навуках, змешчаныя ў дзесятым раздзеле зборніка. Адкрываецца раздзел артыкулам загадчыка аддзела, члена-карэспандэнта НАН доктара філасофскіх навук Л. Яўменава "Міжнародная ідэалогія: правы чалавека — вытокі і сутнасць". Аналітычнай накіраванасцю вызначаюцца і артыкулы Ю. Гусева, С. Рашэтнікава, В. Ляўковіча і В. Мельніка, В. Шчэрбіна, К. Цвіркі, Г. Зенавай.

Абагульняючыя матэрыялы даведачнага і гістарычнага характару ў цэлым змешчаны ў дзесятым раздзеле. Асабліва трэба адзначыць падрыхтаваную В. Шчэрбіным "Кароткую храналогію гісторыі аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАНБ", якая ахоплівае перыяд ад пачатку 20-х гадоў да цяперашняга часу.

У зборніку таксама змешчана складзеная супрацоўнікамі аддзела навуковай інфармацыі сумесна з супрацоўнікамі навуковых *устаноў аддзялення гуманітарных* навук і мастацтваў "Бібліяграфія асноўных кніжных выданняў аддзялення за 1987—1997 гг.", у якой пададзена звыш 380 назваў навуковых манаграфій, зборнікаў, артыкулаў, энцыклапедычных, слоўнікавых і галіновых даведачных выданняў, што сталі вынікам напружанай і самааддана працы супрацоўнікаў аддзялення на працягу мінулага дзесяцігоддзя.

**В. ВІЛЬТОЎСКІ,**
**навуковы супрацоўнік аддзела навуковай інфармацыі па гуманітарных навуках НАН Беларусі**

ВІНШУЕМ!

# Жыве ярка, працуе плённа

Уладзіміру КОНАНУ — 65



Пра такіх звычайна кажуць: на ўсё яго хапае і да ўсяго ёсць справа. І ў гэтым лёгка упэўніцца, калі акінуць позіркам жыццёвы і творчы шлях Уладзіміра Міхайлавіча. Жыве ярка, працуе самааддана, упэўнена і, як вынік, мае надзвычай важкія набыткі. Родам У. Конан з вёскі Вераскава, што на старажытнай Наваградчыне. У 1952 годзе скончыў мясцовую сярэднюю школу, быў камсоргам у ёй, працаваў у калгасе. У 1954 годзе паступіў на гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Атрымаўшы у 1959 годзе вышэйшую адукацыю, настаўнічаў, быў дырэктарам васьмігодкі на Вілейшчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце філасофіі і права Акадэміі навук БССР. Працаваў навуковым супрацоўнікам, загадчыкам сектара эстэтыкі і сацыяльнай псіхалогіі, а з 1986 года — вядучым навуковым супрацоўнікам гэтага інстытута. Цяпер мае навуковую ступень доктара філасофскіх навук, з'яўляецца з 1991 года загадчыкам аддзела нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.

З першым артыкулам Уладзімір Міхайлавіч выступіў у 1963 годзе ў часопісе "Весці АН БССР". Даследуе пытанні гісторыі і тэорыі эстэтыкі і літаратуразнаўства. Высокую ацэнку атрымалі такія кнігі У. Конана, як "Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі. 1917—1934 гг.", "Демократическая эстетика Белоруссии. 1905—1917", "Очерк истории эстетической мысли Белоруссии" (у саааўтарстве з Э. Дарашэвічам, выйшла ў Маскве), "Адам Бабарэка", "От Ренессанса к классицизму", "Эстетическая мысль Советской Белоруссии", "Проблемы искусства и эстетики и общественной мысли Белоруссии начала XX в.", "Беларуская эстэтыка і мастацкая культура: гістарычныя традыцыі і сучаснасць", "Ля вытокаў самапазнання: станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору" і іншыя. За цыкл калектыўных даследаванняў па гісторыі філасофіі і грамадскай думкі У. Конану ў 1984 годзе было нададзена званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

Аб шырыні навукова-творчых інтарэсаў Уладзіміра Міхайлавіча, глыбіні даследчыцкіх памкненняў, нязменным пошуку новых тэм яскрава сведчаць яго публікацыі апошняга часу, найперш на старонках часопіса "Мастацтва". У 1997 годзе, для прыкладу, У. Конан выступіў у часопісе па сутнасці з манаграфіяй "Славянская міфалогія ў кантэксце беларускай культуры", якая апублікавана ў сямі нумарах. Плённым для даследчыка быў і мінулы год. Толькі ў "Мастацтве" ён выступіў з такімі грунтоўнымі даследаваннямі як "Універсальны сімвал творчасці і мастацкага генію. Арфічныя ма-тывы ў беларускім фальклоры" і "Вобраз Казіміра Малевіча: факты і міфы", а таксама з артыкулам "Дух жыватворысць", прысвечаным 75-годдзю М. Крукоўскага. А калі Уладзімір Міхайлавіч бярэцца за якую-небудзь тэму, дык абавязкова асэнсоўвае яе шматгранна і глыбока. Пацвярджэнне таму яго чарговая публікацыя ў "Мастацтве", ужо ў сёлетнім годзе — "Казімір Малевіч: філа-софія і эстэтыка мадэрнізму". І, зразумела, імя У. Конана можна часта напаткаць у іншых перыядычных выданнях, асабліва ў часопісе "Полымя".

Віншуем Уладзіміра Міхайлавіча з 65-годдзем! Доўгіх год жыцця, новых даследчыцкіх поспехаў вам, нястомны ратай на ніве нацыянальнага Адраджэння!





## "Смехапад"

Новая кніга Уладзіміра Мазго, выпушчаная выдавецтвам "Юнацтва" і адрасаваная найперш дзецям малодшага школьнага ўзросту, невыпадкова мае такую назву. Вершы, песні, казкі, загадкі, што ўвайшлі ў гэты зборнік, дасціпныя, з тонкім гумарам. У. Мазго і ў папярэдніх сваіх кнігах "Калі спрачаюцца маланкі" і "Суседзі па сусвеце" імкнуўся пісаць так, каб дзеткі атрымалі не толькі карысную інфармацыю, што спрыяла б іх хутчэйшаму і лепшаму пазнанню навакольнага свету, а і каб мелі задавальненне ад твораў. Але там былі асобныя вершы, а тут ці не ўся кніга. І як бы запеўкай да яе гучыць верш "Смехапад":

*Вось пацеха,*
*Дык пацеха:*
*Развязаўся мех*
*Са смехам,*
*І па вуліцы*
*Пабег*
*Незвычайна гучны*
*Смех.*




А там, дзе смех, і адпаведнае ўспрыманне навакольля: "Нада мною, // Што сняжынкі — // Жарты, // Усмешкі// І смяшынкі.// Засланіў // Маю дарогу// Звонкі рогат,// Звонкі рогат..." У. Мазго, як правіла, падбірае пры гэтым такія сітуацыі, якія ўзяты з жыцця хлопчыкаў і дзяўчынак. Як, для прыкладу, у вершы "Ас": "У нас Воўка — // Проста ас: // У красоўках // "Адзідас"..." А які гэты "ас", высвятляецца хутка: "Не пазнаць // На ўроку // Воўку: // Ледзь адолеў // Стометроўку..."

Аднак смех у творах У. Мазго не дзеля смеху. Паэт ці ставіць перад сабой выхаваўчую задачу, што, дарэчы, відаць і з таго ж верша "Ас", ці імкнецца развіць вобразнае мышленне дзетак, навучыць іх бачыць паэзію ў жыцці. Характэрны ў гэтым сэнсе верш "Зорка ў студні":

*Лорка*
*Ў студню зазірнула:*
*Зорка*
*Ў студні патанула...*

*Журавель*
*Дастаў вядзерца —*
*Зорка*
*Ў небе ўжо смяецца.*

Нярэдка творы так метафарычна насычаны, што, бадай, для лепшага разумення сэнсу спатрэбіцца і дапамога дарослых. Аднак У. Мазго свядома ўскладняе (наколькі гэта апраўдана ў творах для маленькіх) вобразную структуру верша. Як у гэтым — "Вясновае": "Красавік // Зайграў у смык // Жаўруковы // Звонка — // І настрой журботны // Знік // Снегавой пялёнкай". Цікавымі атрымаліся і казкі — "Лясная аптэка", "Круты певень", "Белакрылая зіма" і іншыя. А загадкі напісаны так, што маленькі чытач ці слухач адразу знойдзе патрэбны адказ. Паэт запрашае: "Хлопчыкі, дзяўчаткі, // Тут рыфмуюцца // Адгадкі". У зборнік увайшлі не толькі традыцыйныя загадкі. Пасля іх ідуць і такія, у якіх... Як працяг запрашэння: "Цяпер, сябры, успомнім мы // Загадкі на амонімы". У іх, праўда, адгадкі не рыфмуюцца, але таксама творы напісаны так, што чытаць іх і цікава, і карысна, бо паляпшаецца веданне роднай мовы, узмацняецца адчуванне семантычных мажлівасцяў слова.

Пра новую кнігу можна гаварыць шмат ухвальнага — яна як для дзятвы, багатая на яркія, запамінальныя творы. А да ўсяго і глядзіцца цудоўна, бо малюнкі выканала Т. Беразенская — адзін з самых арыгінальных сённяшніх нашых мастакоў, што працуюць у галіне афармлення дзіцячай кнігі.

**Лявон ЮРЧЫК**

ПАЭЗІЯ

Сяргей ЗАКОННІКАЎ



# З кнігі "У вочы вечнасці гляджу"

## Вечарэе...

*Вечарэе... Паглыбелі воды*
*У вірах няспынныя ракі.*
*Дзень,*
*які знікае назаўсёды,*
*Прыгарнуўся да тваёй шчакі.*

*З поля,*
*дзе стаіць сцяною жыта,*
*Васільковы туманок плыве.*
*Быццам успамін аб перажытым,*
*Узыходзяць росы на траве.*

*Вечарэе... Падаўжэлі цені,*
*Каб таўчы ночы густы замес.*
*Свет,*
*які буяніў, летуценіў,*
*Набывае новы сэнс і змест.*

*Нейкай непазбытнаю трывогай*
*Позірк твой высвечвае душу.*
*На цябе,*
*нібы перад дарогай,*
*Я гляджу,*
*спагады не прашу.*
*Вечарэе... Мілае аблічча*
*Хутка паглыне няўмольны змрок.*
*Гэта лёс мяне зацята кліча*
*За сваю мілосць плаціць аброк.*

*І чаму ён радасць нашу засціць,*
*І куды,*
*нябогу,*
*павядзе?*
*Чым плаціць?*
*А толькі ціхім шчасцем*
*Пасядзець на камні пры вадзе.*

*Апусці далоні ў цемру плыні,*
*І душа наноў адчуе час...*
*Час,*
*які ніколі не загіне,*
*Час,*
*які стралой ляціць праз нас.*

•

*Тыя коні не пасвяцца*
*ў травах мурожных,*
*Не бяруць хлеб даверліва*
*з цёплай далоні...*
*Я жыву,*
*адчуваючы жылкаю кожнай,*
*Што мяне даганяюць*
*шалёныя коні.*

*Час,*
*як дзікі табун,*
*капытамі лёс месіць,*
*Ён наперад ляціць стрымгалоў,*
*без супыну.*

*Год цяпер непрыкметна*
*сціскаецца ў месяц,*
*І становіцца месяц*
*кароткай хвілінай.*

*Адплываюць бярозкамі*
*белыя рукі,*
*І спяшаюць*
*нябёсы вачэй усміхнуцца.*
*Нельга нават прыстоіць*
*прад вечнай разлукай,*
*Немагчыма назад*
*хоць бы раз аглянуцца.*

*За спіной тупацяць,*
*ржуць шалёныя коні...*
*Адчуваю — хутка дагоняць.*

## Вяртанне радасці

*Зноў няма настрою з раніцы —*
*Калатнеча, мітусня.*
*Так не хочацца параніцца*
*Аб калючкі злога дня.*

*Справы,*
*словы бесталковыя*
*Сталі ў горле камяком,*
*І таму невыпадкова я*
*У вакно гляджу цішком.*

*Мо, затурзанага спешкаю,*
*Сёння лёс не абміне:*
*Ці каменьчыкам,*
*ці снежкаю*
*Стукне ён у шыбу мне.*

*На імгненне радасць вернецца,*
*Каб душу сагрэць найперш...*
*Аблачынкай недаверлівай*
*Ты плывеш у гэты верш.*

•

*Душа — той храм,*
*дзе спее слова*
*Пад апякунствам абразоў,*
*Іх тры — даўно зрабіў выснову:*
*Надзея,*
*вера*
*і любоў.*

*Пакутная мая малітва —*
*Радкоў расхрыстаных разбег.*
*Хай Усявышні мае літасць*
*І не палічыць іх за грэх.*

*Хоць галавою — на калодку,*
*Але душой — да зор дапяць...*
*Мне з кожным словам так салодка*
*І паміраць,*
*і ўваскрасаць.*

•

*Тое,*
*што маю,*
*ад вас не хаваю,*
*Верш мой на фальшы не зловіш.*
*Радасць,*
*пакуты*
*і памяць жывая*
*Зліты ў даверлівым слове.*

*Гумкай няўвагі*
*яго можна сцерці —*
*Ходзім усе мы пад Богам...*
*Я не хачу*
*прыжыццёвае смерці,*
*Мне і звычайнай замнога.*

## Уцёкі

*Гэта не аспрэчыш,*
*Хоць стварай тамы, —*
*Вершы піша вечнасць*
*Лепшыя, чым мы.*

*Ёй заўжды прасторна*
*Пад святлом нябёс.*
*Нас жа меле ў жорнах*
*Недарэчны лёс.*

*Ад дзікунстваў новых*
*Тлумна галаве.*
*Застаецца слова,*
*Воля там жыве.*

*Як крылаты вершнік,*
*Праз туман нуды*
*Уцяку я ў вершы...*
*Больш няма куды.*

•

*Хто не хоча вучыцца ў гісторыі,*
*Хто з мінулым ніколі не раіцца,*
*Той свой гуз наб'е на пратораным...*
*Плач і кроў... Усё паўтараецца.*

*Не пайду я сцяжынай зваротнаю,*
*Той,*
*якая ў тумане губляецца,*
*Бо,*
*на жаль,*
*усе мы — смяротныя,*
*І ў запасе часу не маецца.*

*Бо жыццё маё (вось гісторыя!)*
*Не паўторыцца,*
*не паўторыцца...*

•

*З той пары,*
*як жыццё расчыніла мне дзверы,*
*Спела думка,*
*яе абярогам нашу:*
*Не, нянавісць не родзіць*
*надзею і веру,*
*Не, хлусня не ўваскросіць*
*ніколі душу.*

*Мы ў вайне за чужое — сваё забываем,*
*Апускаемся ў прорву далей*
*што ні год,*
*Пустадомствам,*
*дзікунствам сябе забіваем,*
*Ды крычым:*
*"Беларусы — найлепшы народ!"*

*Столькі часу на ніве,*
*угноенай болем,*
*Сеем жыта,*
*але вырастаюць крыжы...*
*Схамяніся,*
*зямляк,*
*і паўстань над сабою,*
*Хоць бы зараз,*
*хоць тут — на астатняй мяжы.*

*Азірніся з трывогай*
*яшчэ раз наўкола,*
*На людзей паглядзі*
*і падумай спярша:*
*— Ну няўжо трэба стаць*
*і бязмоўным,*
*і голым,*
*Каб пра годнасць*
*успомніла раптам душа?*

## Я ўрастаю ў зямлю...

*Я стаю на зямлі,*
*што ў чарнобыльскім прыску,*
*І нікуды адсюль не сысці, не ўцячы...*
*Беларускага лёсу*
*святую калыску*
*Накрываюць,*
*як крэпам,*
*крылом крумкачы.*

*Я стаю там,*
*дзе некалі юна сваволіў,*
*Дзе па шчасце ляцеў*
*са сваёй чарадой.*
*Што адкрыла за век*
*нехлямяжая доля?*
*Толькі тое,*
*што роўныя мы прад бядой.*

*Узнімаецца вецер.*
*Падхоплены попел*
*Асыпаецца зноў*
*на маю сівізну.*
*Я ўрастаю ў зямлю,*
*дзе жыцця мне не хопіць*
*Замаліць і сваю,*
*і чужую віну.*

*Можа, і не паспею,*
*але маю права*
*Той малітвы прамовіць*
*хоць першы радок,*
*Бо не ўся*
*і не ў гэтым*
*сярмяжная праўда,*
*Што дасць вечную волю*
*магільны грудок.*

*Я хацеў волю мець,*
*прагнуў быць чалавекам*
*Тут,*
*дзе сонца,*
*дзе спеляць надзею палі.*
*Дамавіны маёй зарыпіць*
*хутка века,*
*Нібы радасны крык крумкачоў:*
*"Не далі!"*

*Я памру не ад хлеба*
*з мякінай атруты,*
*Не ад горкай вады,*
*не ад хіжых грыбоў.*
*Быў любоўю*
*да крэўнага краю прыкуты,*
*І мяне даканае таксама любоў.*

*Нават смерцю*
*айчыннае поле люблю...*
*Я ўрастаю ў балесную*
*нашу зямлю.*

# ІВАНАВА ТАЙНА

АПАВЯДАННЕ

Іван СТАДОЛЬНІК



*Памяці бацькі*

На трэці дзень, як нашы прагналі з Янкоў немцаў, Іван Трахімчык пайшоў у Кучынскі лес. У лесе было шмат ям ад разрываў бомб і снарадаў, а ля іх цэлыя завалы дрэў — толькі церабі ды вазі.

Спявалі птушкі, дзумкалі, пераляталючы з кветкі на кветку, грузныя, як бамбавозы, чмялі — і шэрыя, і рудыя, і чорныя з чырвонымі жыватамі, куляліся сюды-туды матылі. Недзе ўперадзе, у гушчары раптам застракатала сарока. У адказ ёй старэчым голасам каркнула варона. Іван ішоў памалу, асцярожна ступаючы, як мацаючы нагамі зямлю, каб, не дай бог, не наступіць на міну, ці яшчэ якую заразу, а пасля сарочага стракатання ледзь не на кожным кроку спыняўся, прыслухоўваючыся і да лесу, і да зямлі, і да неба. І ад гэтай лясной цішыні, узарванай птушыным трывожным крыкам, рабілася жудасна і страшна.

Раптам падалося, што з бліжэйшага завалу яго нехта паклікаў. Ён інтуітыўна скокнуў да тоўстай сасны і замёр, стаіўшы дыханне, услухоўваючыся ў лясны пошум.

— Ів-ва-ан!..

Цяпер ён ужо зусім выразна пачуў чалавечы голас. Голас быў ціхі, асцярожны, але быццам і знаёмы, падобны на крык патрывожанай кнігаўкі.

Іван, не адгукваючыся, гадаў: чый мог быць гэты голас — чалавека з іхняй вёскі ці з суседняй?

— І-і-вв-ан!..

— Я тут! Хто гэта? — машынальна адгукнуўся Іван, выйшаў і ступіў колькі крокаў завалу, адкуль чуўся голас.

Але чалавека нідзе не было відаць. Іван сумеўся, падумаў, ці здань якая водзіць яго, наважыўся ўжо крутнуцца назад, але зноў, ужо зусім блізка, пачуў:

— Івв-ван...

Угледзеўшыся туды, адкуль чуўся голас, Іван ледзь не абамлеў: за крокаў дзесяць ад яго пад камлём паваленай сасны ляжаў дагары чалавек у нямецкім мундзіры і з нямецкім аўтаматам у руцэ.

— Фрыц? — само сабой вырвалася ў Івана.

— Іх ніхт Фрыц, іх іст Ганс!.. — тут жа залапатаў чалавек — ён сапраўды аказаўся немцам.

Іван скокнуў за бліжэйшую сасну, увесь упіўся вачыма ў немца, цікуючы за ім.

— Іх ніхт Фрыц, іх іст Ганс! — тонкім жаллівым голасам зноў залапатаў немец і, павёўшы мутнымі, асалавелымі вачыма, адкінуў далей ад сябе аўтамат, махнуў рукой:

— Ів-ван! Ком гір, Ів-ван!

Пастаяўшы які момант у нерашучасці, Іван асцярожна, гатовы ўмомант зноў сігануць за сасну, пайшоў да немца. За крокаў пяць спыніўся і насцярожана пачаў разглядаць яго. Немцу было за трыццаць, а можа, і пад трыццаць, твар яго зарос густой каштанавай шчэццю. Немец глядзеў на Івана ва ўсе вочы. У іх былі і страх, і мальба, і адчай. Іван, здаецца, упершыню бачыў такія блакітныя, такія вялікія і такія даверлівыя, як у дзіцяці, вочы.

"Няўжо з такімі вачамі людзі маглі забіваць другіх людзей, паліць іх хаты, рабаваць і нішчыць іх дабро? — падумаў Іван. — Ён жа таксама, пэўна, гэта рабіў, як і ўсе..."

Ад гэтай думкі Івана раптоўна разабрала злосць, ён нават пашукаў вачыма якой-небудзь патырчакі, каб прыкончыць гэтае стварэнне — не чалавека, фашыста. Але, калі ўбачыў, што немец плача, загаварыў стрымана, прыглушана:

— Ну што, фрыц, скончылася твая "лавачка"? Цяпер на нашай вуліцы свята. Вось як яно бывае, чалавеча...

— Іх ніхт Фрыц, іх іст Ганс, — лапатаў адно і тое ж немец.

— Усе вы аднолькавыя — што Фрыц, што Ганс. Колькі вунь гора, бяды натварылі. Але, як той казаў, не капай ямы другому...

Немец, відаць, адчуў у Іванавых словах нешта нядобрае, бо зноў скрозь слёзы залапатаў:

— Гітлер капут, Гітлер шайзе, Сталін...

Не дагаворваючы далей, ён з жахам угледзеўся ў Івана, нават перастаў плакаць і жаласна застагнаў:

— Іван! Вассэр! Брот! Вассэр! Брот!..

За ўвесь гэты час немец упершыню паварушыўся, працягнуў рукі да Івана і некалькі разоў папляцкаў губамі.

Іван зразумеў, што ён просіць у яго хлеба.

— Няма ў мяне броту, бачыш — няма! Ці ж я ведаў, што знайду тут цябе такога? Няма хлеба. Бачыш, — развёў рукамі Іван.

— Вассэр!..

Немец цягнуў рукі да Івана, паспрабаваў прыпадняцца і тут жа з ускрыкам застагнаў, галава ўпала на ранейшае месца — на невялічкую прыгнутую ялінку, бледны твар зрабіўся папяровым, заплюшчыліся вочы.

У Івана закалацілася, захадзіла ходуном сэрца. Ён дагэтуль не бачыў, як памірае чалавек. Няўжо вось так, на яго вачах, можа нехта памерці, хай сабе і немец?

Немец нечакана зноў застагнаў і расплюшчыў вочы. Іван бадай што ўзрадаваўся і ўспомніў, што зусім блізка ёсць сажалка. Не адчуваючы, як колюць старыя сасновыя шышкі і ігліца яго босыя ногі, уподбежкі кінуўся да сажалкі. Набраўшы вады ў шапку, хутка вярнуўся назад і навёў струменьчык вады, які працякаў праз шапку, проста ў разяўлены рот немца. Той апантана хапаў струменьчык ротам, як усё роўна адкусваючы яго, раз-пораз папярхаючыся. На твары ўвачавідкі паяўляўся кволы румянец. Хапіўшы ротам апошнія кроплі, немец гэтак даверліва і вінавата паглядзеў на Івана, што яму зрабілася неяк не па сабе...

— Івван, Івван... Гітлер капут, Гітлер шайзе. Івван гут, — нараспеў, як усё роўна творачы малітву, загаварыў немец. — Івван гут. Русс гут. Іх ніхт фашыст, іх хабе драй кіндэр. Драй кіндэр...

Немец выставіў тры пальцы і заплакаў зноў.

Слова "кіндэр" Іван ведаў, як ведаў і "айн, цвай, драй". Таму нечакана для сябе заківаў галавой.

— І ў мяне таксама драй кіндэр. — І нават спагадліва ўсміхнуўся Іван, і нават, як і немец, паказаў тры пальцы, бы радуючыся гэтаму супадзенню, хаця, можа, немец і прыбавіў сабе якога кіндэра, каб расчуліць яго.

Але немец зноў паблядне́ў і застагнаў, паказваючы вачыма на паваленую сасну, камель якой ляжаў на ягоных нагах: абедзве нагі немца ніжэй калена былі раструшчаны дрэвам. Вакол раіліся мухі. Іван ашчаперыў камель рукамі і таргануў на сябе, ды сасна не падалася. Адна была рада — распілаваць ці перасеч. Іван падышоў да самога немца, моўчкі ўгледзеўся ў ягоны твар. Немец не зводзіў вачэй з яго па-ранейшаму з насцярогай і адчаем. Знячэўку падзьмуў вецярок, і абдало Івана смуродам, быццам недзе побач была прыбіральня ці валялася якая падла. На Івана найшоў страх: можа, дзе блізка ляжыць які забіты салдат і гніе? Чамусьці ён больш баяўся нябожчыка, чым жывога немца. Ды, агледзеўшыся наўкола, нічога такога не ўбачыў падазронага. І ён здагадаўся, што смурод ідзе ад жывога немца. Смярдзелі, мусіць, раструшчаныя ногі... Івана пачало нават блажыць, зноў найшла злосць.

— Вось як тут мне быць: адкуль я магу ведаць — чалавек ты ці нелюдзь? Можа, вызвалю цябе, а ты заб'еш мяне. Ці, можа, яшчэ твае немцы вернуцца, што тады будзе?

Немец недаўменна глядзеў на Івана, відаць, нічога не разумеючы, але, бачна было па вачах, пачаў непакоіцца яшчэ больш прадчуваючы нешта нядобрае ў Іванавых словах.

А Іван, падахвочаны сваёй уладай над бездапаможным немцам, узяўся выказваць яму:

— Цяпер, калі ты без сілы, дык і на чалавека падобны, хоць і немец. Во, і плачаш, як чалавек. А ці бачыў ты слёзы другіх, як забіваў нашых людзей? Можа, гэта ты забіў і Федзю Данілавага, што ў партызанах быў? Мучыў, рукі, ногі папераломваў. А ён жа, казалі, прасіўся, плакаў, крычаў, просячы ратунку. Во, кажаш, дзеці ў цябе ёсць, шкада табе іх. А Федзя ж маладзенькі быў. І дзеці б у яго былі. І не трое, можа, пяцёра ці яшчэ болей, як у ягонага бацькі...

Успамін пра Федзю пачаў зноў выводзіць Івана з сябе. Хаця, казалі, Федзю замучылі не немцы, уласаўцы.

— Бачыш, добранькі стаў. Плачаш. А чаму я табе павінен верыць, што не забойца? На вайне што робяць? Забіваюць. Хоць вінаваты ты, хоць не вінаваты. Во, і ты вочы вылупіў, не верыш мне, думаеш — заб'ю. І я табе таксама не веру, толькі не хачу браць грэх на душу. Памагу табе, так і быць. А там — як табе суджана, хай так і будзе.

Немец увесь гэты час ляжаў нерухома.

— Добра, што я табе натрапіўся, — гэтак раптоўна, як і разбушаваўся, пачаў супакойвацца Іван. — На маім месцы хто другі ні броту б табе не прынёс, ні васэры, — дулю! А я табе і хлеба прынясу, і сасну перасяку, каб ногі твае адпусціла, а тады заяўляю, каб цябе забралі. Можа, і не застрэляць. Ты ж палонны, ды ў дадатак і паранены. Ну, дык я пайшоў.

— Брот... брот.., — застагнаў зноў немец. — Івван... Івв-ан!..

— Што Іван, што — Іван? Я ўжо даўно як Іван. Тут сякера патрэбна. Гах, гах!

І Іван паказаў рукамі, як ён будзе сячы.

Немец, відаць, не зразумеў яго спалохана вырачыў вочы, часта задыхаў...

— Ах, бачу, дурны ты, як бот, нічога не петрыш, — махнуў рукой Іван і ледзь не подбегам пайшоў ад немца.

— Івв-аан! — пісклявым голасам закрычаў яму ўслед немец.

— Ну, што — Ів-ва-ан? — перадражніў яго Атрахімчык. — Я ўжо трыццаць гадоў як Іван. Тут сякера ці піла патрэбна, а інакш капут табе.

— Ніхт капут, ніхт капут, — заварушыўся і прыўзняўся на локцях немец.

Але Іван ужо больш не спыняўся.

Дома ён узяў сякеру, акраец хлеба і паспяшаўся ў лес. Ішоў шпарка, не асцерагаючыся. І раптам уперадзе прагрымелі стрэлы:

— Тах-тах-тах!..

— Усё! Канец! — маланкай мільганула думка ў Івана. Ён, як падкошаны, бухнуўся пад сасну.

Паціху абмацаў сябе. Ні крыві, ні болю нідзе не было. "Пэўна, не пацэліў", падумаў Іван і, узяўшы вялікую яловую шышку, кінуў яе ў ядлоўцавы куст, каб справакаваць немца. Але вакол было ціха.

— А, можа, ён не пазнаў мяне? Ці пераблытаў з кім? — сам сабе ціха сказаў і паклікаў: — Ганс, не бойся! Не страляй. Гэта я — Іван! Брот нясу. Брот...

Але ніхто не адгукаўся. Прадчуваючы нешта нядобрае, Іван пачаў падпаўзаць да знаёмага завалу. І аж здранцвеў, калі ўбачыў, што твар немца быў увесь у крыві.

— Ганс, што з табой? — як уколаты, ускочыў Іван і падбег да немца.

Той ляжаў дагары, абхапіўшы абедзве руч аўтамат.

Іван здагадаўся, што немец забіў сам сябе, і не мог даўмецца, чаму ён гэта зрабіў. Мусіць, не паверыў яму, Івану.

Перасільваючы страх, Іван перасек сасну, вызваліў Гансу ногі. Пасля пахаваў яго ў бліжэйшай варонцы ад снарада, пасадзіўшы на гэтым месцы яліну з перабітай вершалінай.

...Праз тыдзень Івана мабілізавалі. І дадому ён не вярнуўся — загінуў 9 красавіка 1945 года пры штурме Кёнігсберга.



*Фота М. ЖЫЛІНСКАГА*



ЧАСАПІС

## Як усмешка Буды...

...Вы адчуваеце? Закурылася воблака ўсходніх духмянасцяў, якое схавала ў паўцемры вячэрняга храма статую Буды. Напоўніцеся ўнутраным святлом спакою, прыйдзіце ў захапленне ад мудрагелістых ліній скульптуры стварэння, якое дасягнула вышэйшай дасканаласці, пранікніцеся трапяткім хваляваннем паветра: яно дыхае чароўнымі гукамі...

...Вы чуеце? Гэта ўсплёск хвалі; у блакітнасці мроіцца тонкае аблічча Ундзіны, якое вабіць сваёй няўлоўнасцю. Над вадою разліта вабна-заклікаючая яе песня... Ці не, гэта пераліва жалейкі Пана і шоргат траў пад нагамі Німфы, спадарожніцы Артэміды...

Усе гэтыя вобразы ўяўляліся слухачам, якія наведалі выступленне вядомай польскай флейтысткі, прафесара Варшаўскай акадэміі музыкі Альжбеты Гаеўска-Гадзіны. Яна шмат канцэртуе, удзельнічае ў міжнародных фестывалях часта ладзіць майстаркласы. Рэпертуар яе цікавы і разнастайны: ад эпохі барока да сучаснасці. Перавагу выканаўца аддае творам польскіх кампазітараў, некаторыя прысвечаны асабіста ёй.

Нядаўна Альжбета Гаеўска-Гадзіна правяла майстаркласы з вучнямі Рэспубліканскага ліцэя мастацтваў і студэнтамі Акадэміі музыкі. Адбыўся і яе сольны канцэрт у Зале камернай музыкі. Флейтыстка ўпершыню выступала ў Мінску, наведаўшы нас па запрашэнні Саюза музычных дзеячаў.

Праграма вызначалася разнастайнасцю: К. Ф. Э. Бах, В. А. Моцарт, Ф. Пуленк... Крыштальныя гукі флейты стварылі ва ўяўленні чароўна-імпрэсіяністычныя карціны-мініяцюры (Сюіта для флейты і фартэпіяна ў 4-х частках А. Русэля: "Пан", "Німфа", "Буда"...). Вобраз санаты для флейты і фартэпіяна "Ундзіна" нямецкага кампазітара і педагога К. Рэйнеке ажыўляў у памяці гераіню рамантычнай аповесці Фрыдрыха дэ ла Мот Фуке... Бліскучае віртуознае выкананне, тэхнічныя дасягненні сучаснай флейтавай школы аб'ядналіся з індывідуальным кампазітарскім дарам С. Кісялеўскага, выявілі ў "Impressia Kaprysna" каларыт птушыных трэляў, шум і "гудзенне" энергіі абуджаных веснавых сіл прыроды.

І захапляла мелодыка "французскага Шуберта" — Ф. Пуленка; капрызлівасць рамантычнай непрадказальнасці "Мазуркі" З. Папельскага; працэс гукастварэння і нараджэння цуду музыкі, загадкавы і невытлумачальны, як усмешка Буды...

Вікторыя БЫЧКОЎСКАЯ,
студэнтка Беларускай акадэміі музыкі

## Сустрэча з творчасцю

Лідская мастацкая галерэя наладзіла выставу Леаніда Марчанкі — вядомага беларускага мастака, які нядаўна пайшоў з жыцця. На ўрачыстасць з нагоды адкрыцця выставы прыехалі блізкія і сябры творцы: старшыня Саюза мастакоў Беларусі Г. Буралкін, кіраўнік Беларускага дзіцячага фонду пісьменнік У. Ліпскі, старшыня Саюза беларускіх кампазітараў І. Лучанок. Яны згадалі майстра цёплымі словамі, распавялі аб сустрэчах з ім.

Наведвальнікі галерэі пазнаёміліся з творчасцю аднаго з лепшых афартыстаў Беларусі. Асабліва ўражваюць яго серыі "Мая Беларусь", "Зямля і людзі", "Мой край азёрны", "Мінск", "Край нарачанскі", "Палярны круг", "Па Туркменіі".

Алесь ЖАЛКОЎСКІ
*г. Ліда*

## Быў такі часопіс

Часопіс "Школа і культура Савецкай Беларусі" меў профіль навукова-метадычнага і даведачна-афіцыйнага. Пачаў выходзіць у красавіку 1919 года, выданне спынілася ў чэрвені, а адноўлена было ў студзені — лютым 1921 года. Спачатку "Школа і культура..." з'яўляўся органам Камісарыята народнай асветы Беларусі (у красавіку 1919-га Мінскага губернскага аддзела народнай асветы, а ў маі—чэрвені гэтага ж года Наркамасветы Літвы і Беларусі). Выданне ажыццяўлялася на рускай, беларускай і яўрэйскай мовах. Пабачыла свет пяць нумароў, якія выйшлі ў трох кнігах. Часопіс удзяляў вялікую ўвагу праблемам ліквідацыі непісьменнасці, пісаў пра развіццё на Беларусі народнай адукацыі, змяшчаў пастановы ўрадаў РСФСР і БССР па пытаннях народнай асветы і культуры. Былі змешчаны і такія артыкулы, як "Згукі сусветнай вайны 1914—1918 году ў беларускай паэзіі" Ю. Фарботкі, "Беларускі савецкі тэатр у Мінску" Ц. Кураша, "Зоры. Часопіс Заходняй камуны", NN 1—2, 1918" Д. Бохана і іншыя. З кастрычніка 1921 года замест "Школы і культуры Савецкай Беларусі" пачаў выходзіць "Вестник Народного комиссариата просвещения".

ФЕСТЫВАЛІ

# Залатое зерне творчасці

### "БЕРМУДСКІ ТРОХКУТНІК"

Гомельшчына, падтопленая талай вадою, прымала дзікіх гусей. Цэлую хмару іх бачылі ля Акцябра, куды я ехала па службовай камандзіроўцы. Там да мясцовых выбараў і з прычыны пацяплення "парадкавалі тэрыторыю". Хлапчукоў-школьнікаў кінулі на выраб шпакоўняў для лясніцтва. Ля выканкама звярнуў на сябе ўвагу акуратненькі, ашчадна прысыпаны пілавіннем разарый, а ў двары — слоік ля высозная клёна. Яшчэ адну вясну я сустракала не дома. Здаецца, гэта стала традыцыяй...

Рудабельскі край (а мясцовыя толькі так яго і завуць) нехта жартам атэставаў, як "Бермудскі трохкутнік". Ён займае паўночна-заходнюю частку Палесся і суседнічае з многімі раёнамі Мінскай і Магілёўскай абласцей. Да кожнага з гэтых цэнтраў, як і да Гомеля, недзе 200 кіламетраў. Тут, на станцыі з дзіўным найменнем "Рабкор", заканчваецца чыгуначная каляіна. Затое да бліжэйшага газаправода — 80 км, што не дазваляе правесці адгалінаванне.

Раён лічыцца чыстым ад радыяцыі, сюды пераселена дзве з паловай тысячы чарнобыльцаў, у асноўным пенсіянераў. Непенсіянерам працы асабліва не знаходзіцца: не дазваляе, як прынята казаць, інфраструктура. Некалькі гадоў запар не шанцуе і з кліматычнымі ўмовамі. Плюс штогоднія, звыклыя ўжо затапленні, з якімі немагчыма змагацца.

Чаму менавіта ў гэтым раёне праводзіцца фестываль фальклорнага мастацтва? Таму што ў кіраўніцтве знайшліся людзі, неабыякавыя да спадчыны і мясцовых традыцый. Што да культуры адносіны тут не з горшых, бачна па такім факце. Сярод зімы ў 94-ым згараў мясцовы музей. Старшыня райвыканкама Г.Дзегцяроў склікаў актыў, і прымаецца рашэнне сіламі раёна браца за будоўлю. Збіралі грошы як у шапку — хто колькі дасць — з прадпрыемстваў, устаноў, гаспадарак, і роўна праз год узняўся новы, з чырвонай цэглы будынак па праекце мясцовага архітэктара П.Каваленкі.

Ідэя фальклорнага свята належыць вядомаму харэографу і фалькларысту, супрацоўніку Інстытута праблем культуры Мікалаю Аляксеевічу Козенку. Ён меў ужо вопыт правядзення аналагічных святаў. І фестываль беларускага танца праведзены ў Гродне ў 90-ым годзе, потым былі "Палескі карагод", "Пярэзвы", "Чачэрская полька". Ва ўсіх гэтых фестывалях назапашваўся вопыт, напрацоўвалася методыка, узбагачаліся формы правядзення і рэпертуару.

Мікалай Аляксеевіч неадноймы выязджаў у Рудабелку з навукова-даследчымі мэтамі, ведае традыцыйныя рамёствы краю і фальклорныя калектывы. Асновай поспеху пры ўвасабленні ідэі стала плённае супрацоўніцтва двух раённых аддзелаў — культуры і адукацыі. Аддзел культуры (заг. Святлана Беразоўская) двойчы займаў першае месца па выніках раённага спаборніцтва. А загадчыца аддзела адукацыі Іна Метліч з гордасцю за выхаванцаў паведаміла, што на рэспубліканскай алімпіядзе яны ўзялі другое месца па беларускай мове і трэцяе — па матэматыцы. Зусім няблага для "глыбінкі"...

### "ТАНЦАВАЛІ ЎСЕ..."

Фестываль "Берагіня" дзеліцца на два аўтаномныя: конкурс танцавальных пар (пабытавыя народныя танцы) і агляд фальклорных гуртоў, ансамбляў, салістаў. Мэты і задачы прадугледжваюць: аднаўленне, пераемнасць і папулярызацыю аўтэнтычных формаў народнага мастацтва, далучэнне дзяцей і моладзі да фальклорнай спадчыны краю.

Першы і другі адборачныя туры фестывалю праходзілі ў студзені-сакавіку. Умовы конкурсу многія лічаць занадта строгімі: вучні малодшых класаў павінны развучыць не менш за пяць танцаў, старэйшыя — да пятнаццаці. Сярод іх полькі, "Лявоніха", "Падыспань", "Месяц", "Мікіта"...

М.Козенка разважае:

— Спяваць, іграць, ткаць можна і аднаму. А таньчыць — абавязкова з кімсьці. Танец — гэта від калектыўнай творчасці, ён патрабуе ведання этыкету, умення запрасіць і падзякаваць. Традыцыя будзе жыць, калі дзіця навучыцца як пластычнаму мастацтву, так і спевам, калі яно асвоіць якісьці народны інструмент і ведацьме асноўныя элементы нацыянальнага строю.

Нельга сказаць, каб усе школы і клубныя ўстановы ўспрынялі ідэю як сваю. Шмат што залежала ад кіраўнікоў, настаўнікаў, проста энтузіястаў. Дзе знаходзіліся людзі з развітым творчым пачаткам і несапсаваным густам, там закіпела падрыхтоўка. Расказвае намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце СШ N 3 В.Дульская:

— У нас танцавалі ўсе. У актавай зале перш выстраілі парамі старэйшых. Не абышлося без псіхалагічных праблем: не кожнаму падлетку лёгка ўзяць дзяўчынку за руку... Пачалі з простых танцаў, потым развучылі больш складаныя. У каго лепш атрымлівалася, у каго горш, але стараліся ўсе. А колькі слёз было, калі хтосьці не трапіў у фінал! Са школы адабралі 12 лепшых пар.

Журы конкурсу высока ацэньвала мясцовыя варыянты танцаў, захаванне кампазіцыі і мастацкага стылю, элементы імправізацыі, а таксама строі танцораў. Касцюмы патрабавалася альбо знайсці сапраўдныя, альбо пашыць сваімі рукамі па народных узорах. З куфэркаў даставаліся вышытыя крыжыкам фартухі і блузкі, нашываліся ка-ляровыя стужкі на шырокія спадніцы, бабулі ахвяравалі на кашулі ўнукам уласнаручна вытканае палатно. Паяскі навучыліся ткаць самі. Дзеля гэтага прыязджала з Мінска супрацоўніца Інстытута праблем культуры Ірына Мазюк.

### "ЦЯЖКА САДУ БЕЗ ЗЯЗЮЛІ..."

Пабытавых танцаў мне бачыць не давялося: трэці адборачны тур быў прысвечаны каляндарна-абрадавым песням. На стале ў журы стосікам складзены аддрукаваныя праграмкі кожнага калектыву. Узрост выканаўцаў — ад садаўскага да самага паважанага, прычым рознаўзроставыя і сямейныя гурты прымаліся асабліва цёпла.

На жаль, умовы фестывалю не ўсе прынялі да ведама (забаранялася выконваць пачутае па радыё альбо перанятае з іншых рэгіёнаў); сустракаліся песні, якія ўжо набілі аскоміну. Адна са школ ці не ўсю праграму склала з выпадковых нумароў і вучнёў увогуле не далучыла: абышліся педкалектывам.

З абрадавых песень сустракаліся бытавыя, вясельныя, валачобныя, а найчасцей — купальскія. (Можа, таму, што русалкі, вадзянікі і чорцікі самім дзецям відавочна падабаліся.) Стылізаванае вогнішча і карагод арганічна ўпляліся ў выступленні СШ N 1 і вёскі "Рассвет" (былое Качай-Балота). Самыя меншанькія, з садка N 3, праспявалі "Юрачку" і "Польку-трапятуху".

...Занатоўваю першыя ўражанні фестывальнага дня, вылучаю сярод дзяцей самых галасістых і пластычных, а сама чакаю галоўнага — аўтэнтычных спеваў, з'явы хвалюючай, рэліктавай і жывой адначасна. І калі спявалі старэйшыя — В.Эберт, Н.Круглякова, Л.Русак, сямейны ансамбль Вергуноў, гурт з вёскі Новая Дуброва, — то ў зале рэза-


*Яшчэ адно ўдакладненне... Мікалай Козенка з Інай Метліч (злева) і Святланай Беразоўскай.*


*Інструментальная група фальклорнага ансамбля "Рудабельскія зорачкі" (СШ N 3).*


*Акцябрскі Дом рамёстваў. Вучымся плесці з саломкі.*

ніравалі ўсе глядацкія пакаленні, зліваліся ў адну вялікую, уражлівую, чуйную душу. А якія песні трапляліся — проста залацінкі!

***Цяжка саду без зязюлі,***
***А мне, младзе, без матулі.***
***Цяжка вішні без лісточкаў,***
***А мне, младзе, без браточкаў.***

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

***Цяжка траве без расіцы,***
***А мне, младзе, без сястрыцы.***

З удзельніцамі Новадуброўскага фальклорнага гурта мне ўдалося пагутарыць. Яны былі не вельмі задаволеныя выступленнем: у апошні момант захварэлі гарманіст і прыпевачніца. "Нас трэба слухаць, як мы самі сабе пяём, бо на сцэне хвалюемся", — гаворыць салістка Аляксандра Яфрэмава. А дырэктар клуба Тамара Кавалевіч пералічвае, дзе ім даводзілася выступаць: "І ў Гомлі былі, і ў Чарнігаве, і ў Парэччы на аглядах, і на тэлебачанні..." Наконт вуснай перадачы песень сказалі так: "Трэба палюбіць песню, тады хутка яе пярэймеш".

Ці не ў гэтым сакрэт поспеху ўжо згаданай трэцяй школы? Калі ўпершыню прыехалі на машыне па Аляксандру Яфрэмаву, яна не падумала, што павязуць яе ў раённы цэнтр. Запрашалі сюды і іншых носьбітаў мясцовых мастацкіх традыцый: Настассю Юрчак, Сямёна Селіванава, Марыю Балуту. Ад Ядвігі Бахановіч запісалі гульню "Апанас", ад Фамы Сінкевіча— рэкруцкую песню, ад Івана Высоцкага — паданне пра камень. У фінальных нумарах, калі разам з Сямёнам Данілавічам "урэзала" на гармоніку завуч школы (чым усіх здзівіла), калі аб калена загрукаў бубнам хлапчук, калі дзяўчаткі запяялі "як бабулі" — зала літаральна "завялася": пляскалі ў такт, выкрывалі словы падтрымкі і ўхвалы. Старшыня журы, той жа Мікалай Козенка, каб не прапусціць гэты дзівосны момант жывой творчасці, не вытрымаў і сам узяў у рукі відэакамеру. А як спявалі бабулі — стаяў пры іх на сцэне з магнітафонам. Усё гэта сапраўды трэба запісваць і захоўваць — каб не знікла, не адышло ў нябыт разам са старымі людзьмі, стала нашым багаццем, нашым неацэнным духоўным скарбам.

## "У ШКОЛЕ ПАВІННА БЫЦЬ, ЯК ДОМА"

Карэспандэнт "Настаўніцкай газеты" Святлана Міцкевіч і я пажадалі пабываць у школе, якая паспяхова выступіла на ўсіх адборачных турах фестывалю. "Гэта адна з лепшых школ вобласці", — так прадставілі Акцябрскую школу N 3 у аддзеле адукацыі. І, здаецца, нікольکі не перабольшылі.

Нашым экскурсаводам была дырэктар, педагог з дзвюма адукацыямі Любоў Сяргееўна Шэйка. Школьны будынак новы, прасторны, дагледжаны. Тут няма звычайнага падзелу на кабінеты, — існуюць цэнтры. Заходзім, напрыклад, у гістарычна-нацыянальны цэнтр. Пачынаецца ён з фае, упрыгожанага работамі М.Басалыгі. Трое дзвярэй вядуць у кабінеты фальклору, гісторыі, краязнаўства. У першым з пералічаных праводзяцца тэатралізаваныя абрадавыя святы — цэлыя відовішчы, на якія запрашаюцца бацькі.

У цэнтры пад назвай "Літаратурны салон" — гасцёўня, кабінет сусветнай культуры, кабінет пісьменства і друку. Пераходзім з паверха на паверх і не стамляемся дзівіцца: цэнтр рамёстваў, псіхалагічны цэнтр з кабі-нетам самавыхавання, мастацкая галерэя, тэатральная студыя, музей прыроды, і паўсюль — бязмежжа хатніх кветак, густоўныя шторы, драўляная, упрыгожаная разьбой мэбля, дзіцячыя малюнкі на сценах, на падлозе — каляровыя дываны (на іх і самі нас-таўнікі складкі збіралі). Пазіцыя дырэктара такая: "У школе павінна быць як дома, толькі крыху лепш".

Пытаемся пра фестываль. Маўляў, першая рэакцыя "нармальнага" кіраўніка — што гэтыя скокі будуць замінаць працэсу навучання.

— Я перш не надала фестывалю вялікага значэння. Няхай танцуюць... Потым гляджу: Вольга Гаўрылаўна забегалася. Значыць, трэба ўключацца і мне. Паверце, я ўмею адрозніваць зерне ад мякіны. Стварылі школьны аргкамітэт, вывучылі ўмовы конкурсу, падключылі бацькоў. Гармонікі шукалі па вёсках, запрашалі старых людзей, слухалі запісы, раіліся. Нас народнаму не вучылі, але ж нейкі вопыт маем, каранёў сваіх не забылі...

Што карані там жывыя — відаць на кожным кроку. У школе не на словах, не голымі дэкларацыямі выхоўваюць патрыятызм, культуру, пачуццё прыгожага, не раз'ядноўваючы цэлае на часткі. Праўда, рэшткі старога яшчэ трымаюцца ў свядомасці: дасюль не знайшлі вартага адпаведніка піянерскай арганізацыі, і куточак грамадскай работы са сцяжкамі і вымпеламі выглядае зусім як музейны.

Зрэшты, час усё роўна возьме сваё. І вельмі верагодна, што тыя, у кім сёння будзяць годнасць і генетычную памяць, аднойчы стануць ініцыятарамі перайменавання раёна з Акцябрскага ў Рудабельскі. Актывісты Савецкай улады тут відавочна перасталіся: ці то прыезджымі былі, ці то проста страцілі адчуванне роднай глебы.

У чэрвені раён адзначыць свой юбілей — 60 год. У рамках святкавання адбудуцца заключныя мерапрыемствы "Берагіні", на якія мяркуецца запрасіць калектывы з суседніх раёнаў.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*Фота С. МАРТЫНЕНКІ.*

# Першая лэдзі купалаўскай сцэны

## ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ НАРОДНАЙ АРТЫСТКІ БЕЛАРУСІ Вольгі ГАЛІНЫ

***Я пазнаёмілася з Вольгай Уладзіміраўнай Галінай у 1960 годзе, калі яна пачала выкладаць майстэрства акцёра на курсе рэжысёра Б.Дакутовіча. Усе мы, студэнты-першакурснікі, адразу ж адчулі магічнае ўздзеянне таленавітай актрысы-педагога, вельмі далікатнага, нават вытанчанага, неардынарнага, духоўна багатага чалавека. Асобы ў лепшым сэнсе слова...***



Мы захапляліся ёю, імкнуліся быць на яе падобнымі. Асабліва ўражвала дзівоснае спалучэнне велічнай, арыстакратычнай знешнасці і сціплай, абаяльнай простасці, што і стварала на занятках надзвычайную атмасферу адкрытасці, даверу. Побач з ёю нельга было хлусіць, хітраваць. Сярод студэнтаў, здатных на выдумку і жарт, хадзілі анекдоты пра Вольгу Уладзіміраўну, дзе на розны капыл абыгрываліся яе наіўная чысціня, непасрэднасць. Але Галіна была вельмі прынцыповым і найвыдатным педагогам. Яна бязмежна любіла тэатр і вымагала ад студэнтаў такой самай — поўнай самааддачы.

Наступная наша сустрэча адбылася праз сем гадоў. Здарылася так, што тэмай маёй тэатразнаўчай дыпломнай працы стала манаграфія аб жыцці і творчасці В.Галіны. Актрыса запрасіла мяне да сябе і нашы сустрэчы на кватэры па вуліцы Захарава, дзе яна жыла разам з Ларысай Пампееўнай Александроўскай, сталі пастаяннымі. Цяжкасць была ў тым, што ў 1962 г. В.Галіна пакінула тэатр, таму за выключэннем некалькіх апошніх роляў я практычна не бачыла яе на сцэне. Выратавала становішча Вольга Уладзіміраўна, якая літаральна праіграла перада мной свае лепшыя ролі. Паступова я спазнавала яе няпростае творчае жыццё.

Так, я даведалася, што сапраўднае прозвішча Вольгі Уладзіміраўны — Грудзінская, па мужу — Александроўская, а Галіна — гэта псеўданім, які прыдумаў для маладой актрысы паэт Якуб Колас. З першых крокаў у купалаўскім тэатры, куды яна была прынята ў 1923 г. з блаславення Е.Міровіча, Вольга Галіна заняла ў трупе адметнае месца. Ганна ў "Машэку" Е.Міровіча, Эльга ў аднайменным спектаклі Г.Гаўптмана, Альдона ў "Віры" Я.Рамановіча, Ізабэла ў "Вясковым суддзі" П.Кальдэрона яскрава пацвердзілі моц яе таленту. Яна стала адзінай, непаўторнай выканаўцай роляў вытанчаных арыстакратак.

Партнёры па сцэне не раз адзначалі высокую сцэнічную культуру актрысы, дакладнае адчуванне стылю і жанру спектакля. Выключнае ўражанне пакідаў далікатны густ выканаўцы, яе ўменне насіць гістарычны касцюм, знаходзіць пластыку вобразу, адпаведную пэўнай эпосе і сацыяльнаму асяродку.

Найбольш яскрава талент В.Галіны раскрыўся ў класічным рэпертуары. Даверлівая, непрыстасаваная да жыцця Купавіна ("Ваўкі і авечкі" А.Астроўскага), трагічна няшчасная Соф'я ("Апошнія" М.Горкага), душэўна раздвоеная Ранеўская і эгаістычная, спешчаная Аркадзіна ("Вішнёвы сад", "Чайка" А.Чэхава) — гэта найвышэйшыя ўзлёты творчасці актрысы. Кожны вобраз нёс на сабе адбітак яе мастакоўскай адметнасці і вызначаўся інтэлігентнасцю і інтэлектуальнасцю.

Вельмі трапна вызначыў індывідуальнасць выканаўцы рэжысёр Л. Літвінаў: "Вобраз жанчыны-інтэлігенткі, жанчыны-летуценніцы, жанчыны, якая і ў старасці захавала дзявочую непасрэднасць, свежасць пачуцця, вобразы жанчын, авеяных лірыкай Чэхава, найбольш блізкія артыстычнай душы Галіны". На жаль, такіх роляў у яе творчасці было няшмат.

Гістарычна склалася так, што ў 20—30-ыя, як і ў пасляваенныя гады, на сцэне пераважалі палітычна вытрыманыя сучасныя п'есы, даволі слабыя ў мастацкіх адносінах. Высакародны арыстакратызм В.Галіны не заўсёды быў запатрабаваны, таму актрыса знаходзілася ў доўгіх творчых прастоях, альбо іграла ў звычайных аднадзёнках. Былі ў яе жыцці і выпрабаванні іншага кшталту.

Сёння мала хто ведае, што адразу ж пасля вяртання тэатра з эвакуацыі на калектыве разглядалася персанальная справа В.Галіны. Падставай паслужыла неасцярожна прамоўленае, наіўнае выказванне Вольгі Уладзіміраўны аб добра наладжанай заходняй прапагандзе. Па асабістым прызнанні актрысы ёй ніколі не даводзілася перажыць столькі сораму і крыўды, як на тым памятным сходзе. Яе абвінавачвалі ў нейкіх глупствах, напрыклад, у тым, што іграла яна пераважна ў п'есах замежных аўтараў. Усё гэта ўяўлялася проста недарэчным сном. Але самае страшнае адбылося, калі навісла рэальная пагроза звальнення з тэатра. Імгненна рушылася ўсё, не хацелася жыць.

Выратаваў першы сакратар ЦК КП(б)Б П.Панамарэнка, які па просьбе Л.Александроўскай узяў В.Галіну пад сваю абарону. Поўная "рэабілітацыя" актрысы адбылася ў 1950 г., калі яна цудоўна сыграла ролю Марыі Аляксандраўны Ульянавай у спектаклі "Сям'я" І.Папова. Памятаю, як мяне ўразіла высакародства Вольгі Уладзіміраўны, калі яна расказвала гэту гісторыю. Актрыса не назвала ніводнага прозвішча сваіх крыўдзіцеляў, затое з вялікай удзячнасцю ўспамінала, як яе абаранялі У.Уладамірскі, С.Бірыла, С.Станюта.

Апошнія гады жыцця В.Галіна жыла ў аднапакаёвай кватэры па вуліцы Рэспубліканскай. Яна шмат чытала, наведвала тэатральныя прэм'еры, цікава пісала пра сваіх калег. Яна жыла адзінока, але адкрыта для людзей і дабра. Аднойчы на вуліцы актрыса дапамагла жанчыне, якую ледзь не збіла машына. Аказалася, што ў выпадковай знаёмай некалькі дзяцей, а муж у турме. Вольга Уладзіміраўна не магла прайсці міма чужога болю. І вось яна, знакамітая актрыса, якая чытала ў арыгінале французскія раманы, некалькі разоў на тыдзень ездзіла на другі канец горада, каб дапамагчы матэрыяльна і маральна фактычна незнаёмаму чалавеку.

Я вельмі ўдзячна лёсу за сваё знаёмства з Вольгай Уладзіміраўнай Галінай, якая і ў жыцці і на сцэне захоўвала інтэлігентнасць, арыстакратызм духу. Для мяне асабіста яна была і застаецца ўзорам гарманічнага спалучэння вонкавай і ўнутранай прыгажосці, непаўторнай першай лэдзі купалаўскага тэатра.

**Тамара ГАРОБЧАНКА**

*На здымках: ролі Вольгі ГАЛІНЫ ў спектаклях розных гадоў...*

*Фота Ул. КРУКА*









**ЧАСАПІС**

## У шчырай атмасферы

**Сонечны веснавы дзень 31 сакавіка асабліва ўсцешыў навучэнцаў педкаледжа N 1: у гэты дзень нашым госцем быў Генадзь Бураўкін — таленавіты паэт і цікавы чалавек. Ён быў дыпламатычным прадстаўніком Беларусі ў ААН, узначальваў Дзяржкамітэт па тэлерадыёвяшчанні. Зараз ён старшыня ТБМ імя Ф. Скарыны.**

**Г. Бураўкін пазнаёміўся з гісторыяй каледжа, з выставай сваіх кніг і выставай альбомаў і альманахаў нашага літаратурнага аб'яднання "Маладзічок", з публікацыямі нашых пачаткоўцаў у рэспубліканскім друку.**

**А сама сустрэча пачалася з паэтавай "Калыханкі", якую спявалі ўсе прысутныя. Вялі сустрэчу выкладчыца Валянціна Раманцэвіч і навучэнка, кіраўніца "Маладзічка" Алена Ільюкевіч. "Маладзічкоўцы" чыталі свае вершы, расказвалі пра паездкі і падарожжы па гістарычных мясцінах сталіцы і краіны, пра сустрэчы з паэтамі, вучонымі, артыстамі.**

**У каледжы створана суполка ТБМ, якая шмат робіць, каб наша мова жыла ў нашай установе. У гэтым плане ў нас ёсць шмат цікавых задум — наведванне музеяў, Дома літаратара. Многія падпісаліся на газеты "Наша слова" і "Літаратура і мастацтва".**

**Нам было за гонар чытаць свае творы. Калісьці будзе прыемна прыгадаць, што твой дэбют адбыўся ў прысутнасці Г. Бураўкіна.**

**Генадзь Мікалаевіч адказваў на нашы пытанні ахвотна, поўна і чытаў свае вершы самай рознай тэматыкі. Мы з захапленнем слухалі яго грамадзянскую і філасофскую лірыку, гумар і, вядома ж, вершы пра каханне. Усе пагадзіліся з аўтарам, што "непрыгожых жанчын не бывае, проста шмат невідушчых мужчын". Але асабліва ўразіў усіх яго верш "Малітва", пакладзены на музыку Э. Ханком. Мы назаўсёды запомнім радкі гэтай "Малітвы":**

*Смутнаю парою нелюдзімай,*
*Калі ўсё наўкол ідзе на злом,*
*Божа,*
*Захіні маю Радзіму*
*Мудрасцю,*
*Спакоем*
*І цяплом!*

**У канцы госць сфатаграфаваўся з намі, пакінуў жадаючым аўтографы на сваіх кніжках.**

**Сустрэча прайшла ў цёплай, шчырай атмасферы. Мы далучыліся да высокай паэзіі, сустрэліся з чалавекам выключнай дабрыні і таленту.**

**Вольга МЯСНІК,**
**навучэнка каледжа**

## "Беларусь", N 2

**Адзін з герояў другога нумара часопіса "Беларусь" — кампазітар і аранжыроўшчык ансамбля "Сябры" М. Сацура. Выказацца яму дапамагла В. Ждановіч. У. Панада ("Веды ад дзеда, альбо Культ цела па-беларуску") гутарыць з выкладчыкам Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта Г. Адамовічам. "Каму служыш, салдат?" — педагагічны роздум І. Ждановіча. Пра ідэалогію дзяржаўнага будаўніцтва разважаюць кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь М. Мясніковіч; доктар філасофскіх навук, пісьменнік У. Конан, дырэктар Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў Я. Матусевіч; доктар філасофскіх навук, прафесар М. Крукоўскі; доктар гістарычных навук, прафесар У. Снапкоўскі, кандыдат філасофскіх навук Г. Пашкоўскі. З палемічнымі нататкамі "Што бароніць беларускі тэатр?" выступае Т. Гаробчанка. Пра тое, чаму знакаміты У. Співакоў прыязджае на гастролі ў Магілёў, можна даведацца з матэрыялу М. Тоўсціка "Гук сумлення". Творчасць В. Шаранговіча ў кантэксце сучаснага беларускага мастацтва разглядае М. Баразна ("Сатварэнне графікі"). "Вечары ў Сялявічах каля Зэльвянкі" — лірычная фотанавела В. Жыліна і І. Калюты. В. Шніп прадстаўляе аповесць-мінімум С. Верацілы "Пікнік у халодны летні дзень на беразе возера". Змешчаны вершы А. Мазько (уступнае слова В. Гардзея), М. Лужаніна, а таксама В. Маракова, якім папярэднічае артыкул Л. Маракова "Акрыляў яго ласкай Купала". Я. С. рэцэнзуе 17-ы том "Гістарычнага слоўніка беларускай мовы" ("З глыбінь вернутае").**

*"ЛіМ"—ФОТА*



*Іван Місько: "Каго яшчэ тут не было?.."*

*Фота А. ПРУПАСА.*

ПАМЯЦЬ

# Не стаяў на раздарожжы

### ШТРЫХІ ДА ЛЁСУ Уладзіміра ПРЫБЫТКОЎСКАГА

Уладзімір Прыбыткоўскі (з канца 20-х гадоў друкаваўся пад псеўд. Прыбытак Лад) быў вядомы як паэт і крытык. Інфармацыі пра ягоны лёс, на жаль, не захавалася. Мы не ведаем нават дзе і калі ён нарадзіўся. Таму паспрабуем даць уяўленне пра гэтага пісьменніка праз яго творы.

Пачынаў У.Прыбыткоўскі даволі сціпла. У часопісе "Аршанскі маладняк" (1926, N 1, студзень) у аддзеле "Паштовая скрынка" чытаем:

"Курыльчыку, Прыбыткоўскаму, Запольскаму. У прысланых матэрыялах ёсць недахопы, зачым ён накіраван у Горацкі студыйны гурток "Маладняка", дзе ён будзе разгледжан, з увагай на памылкі..." Але ўжо ў другім нумары "Аршанскага маладняка" гэтага года з'яўляецца "падмаякоўская" рэч (вершам гэты твор назваць цяжка) У.Прыбыткоўскага "Сёння — дысананс", дзе радкі:

***Раніца***
***кастрычніка***
***крывавая***
***акрывавіла***
***пялёнкі мае***
***крывёю...***
***суседнічаюць з:***
***Паравоз!***
***Ты-ж ня гад-кулак,***
***не падліза-нэпман...***

З трэцяга нумара часопіса У. Прыбыткоўскі становіцца адным з пастаянных яго аўтараў і сябрам Аршанскай філіі "Маладняка". Амаль у кожным нумары друкуюцца яго вершы, то ў выглядзе заклiку да "балванаў", якія "распусцілі нюні" (верш "Паскуднікам" — адна назва чаго вартая):

***...лепш***
***вучыцеся,***
***як лепей!***
***сеяць "проса"***
***І як ворага***
***па мордзе***
***трэба біць...***

То ў выглядзе дзедавай прымаўкі з абавязковым класавым ухілам:

***Толькі з маёй сілы***
***не было карысці,***
***бо трэ было пану***
***век канюшні чысціць.***

Або верш-віншаванне Я.Коласу ў сувязі з дваццацігадовым юбілеем яго літаратурнай дзейнасці:

***Затраслося трысцё, зашуршэлі асокі:***
***"каласка заглушыць трэба",***
***бо ім страшна, каб ён не ўзняўся высока:***
***бо яны ж не даюць хлеба!***

І нават проста "пра снег", у другой рэчы, У.Прыбыткоўскі піша "камуністычна сурова":

***Развеяць,***
***ударыць,***
***нагамі ў хмары,***
***хай зваліцца***
***снег***
***на галовы,***
***мы стопчам***
***і снег,***
***і драпежныя мары,***
***і ўзняўшыся***
***глянем на неба***
***сурова...***

У рэчы "Драма мамы" вызначаецца такі "натуралізм":

***"Дзе мама і папа" —***
***пытаюся,***
***калупаючы ў носе,***
***а пад носам***
***чорненькі грыб.***
***"Мама ў кабаку,***
***а папа ў паравозе".***
***І пальчык на шыбе:***
***Скрып...***

"Мне чамусьці нагадваў лясную птушку У.Прыбыткоўскі, які вельмі таропка і адрывіста гаварыў і, нібы крыламі, размахваў рукамі", — пісаў ва ўспамінах С.Шушкевіч.

У 1926 г. У.Прыбыткоўскі дэбютуе як рэцэнзент. З'яўляецца яго рэцэнзія на кнігу М.Зарэцкага "Голы звер", зборніка Я.Пушчы "Vita", артыкул "Індывідуальнасць і сучасная літаратура". Аб Прыбыткоўскім-крытыку Я.Калядны пісаў, што "т.Прыбыткоўскі аб'ектыўны і ўсебаковы ў крытыцы і зусім неаб'ектыўны і нікуды нягодны крытык". М.Ганчарык у сувязі з гэтым зазначыў: "Прыбыткоўскі не стаіць на раздарожжы, як Дудар, проста і шчыра кліча кінуць у вёсцы і ў горадзе "слёзы дзедаўскія сеяць па пяску" і, каб скарэй знішчыць кулацка-нэпаўскі дысананс сучаснасці, зазывае "без вагання прыстаўляць наган к віску".

"З 1925 па 1930 пры акадэміі (у Горках. — **Л.М.**) плённа працаваў літаратурны гурток. (...) Назаву некалькі імён (Аршанскіх маладнякоўцаў. — **Л.М.**): Васіль Каваль... Уладзімір Прыбыткоўскі — цудоўны паэт (падкрэслена мной. — **Л.М.**), загінуў у пачатку Айчыннай вайны (не пацверджана. — **Л.М.**), здаецца, недзе на Брэстчыне і, на жаль, цяпер зусім забыты...", — успамінае Ю.Гаўрук ("Ступень адказнасці").

У канцы 1927 г. У.Прыбыткоўскі ўступае ў "Літаратурна-мастацкую камуну". Пачынае друкавацца ў часопісе "камуны" — "Росквіт". У шукайлаўскім часопісе нястомны "камунар" заклікае:

***Ты хочаш паэтам зрабіцца? —***
***Рабіся хутчэй чалавекам:***
***Пакінеш мяшчанства драбніцы,***
***Насыплеш дабра ў засекі.***

У кнізе М.Гарэцкага "Маладняк" за пяць гадоў" (1928 г.) ёсць некалькі ўпамінанняў пра У.Прыбыткоўскага: "У 1926—27 гг. з'яўляюцца шэраг маладых іменняў у філіяльных выданнях "Маладняка", як Броўка, Хадкевіч, Ананнеў, Люгоўскі, Катановіч, **Прыбыткоўскі**, Таўбін і інш... Слаба афармляюцца Лявонны, Маркава, **Прыбыткоўскі**, Броўка. З іх асаблівыя надзеі можна пакладаць на Маркаву... Ёсць некалькі сяброў, што пішуць крытычныя артыкулы і рэцэнзіі паміж пісання літаратурных твораў (Барашка, Гародня, Гаўрук, **Прыбыткоўскі** і інш.)". Ю.Віцьбіч аб У.Прыбыткоўскім пісаў па-іншаму: "Найздатнейшым у ёй ("Літаратурна-мастацкай камуне". — **Л.М.**) быў Прыбытак Лад" (Псеўд. У.Прыбыткоўскага. — **Л.М.**). Восенню 1928 г. У.Прыбыткоўскі выходзіць з літаратурных аб'яднанняў "Літаратурна-мастацкая камуна" і "Маладняк", але пачынае друкавацца ў аднайменным часопісе. У вершы з прысвячэннем пралетарскай інтэлігенцыі чытаем:

***Шукалі лапці,***
***Шукалі боты!***
***Хай жа ярчэе***
***калгас у целе!!***
***Гудкі!!!***
***Мы разам сталі на работу?!!***
***і каласамі,***
***радасцю —***
***зямлю ўсцелем!***

У апошнім з вядомых надрукаваных вершаў неўгамонны У.Прыбыткоўскі (цяпер ён ужо Прыбытак Лад) "Марш калектывізацыі" заклікае:

***З упартасцю трактароў***
***мы ня престанем,***
***Ад меж і ад ворагаў***
***землі аголім...***

і далеей —

***Зруньcя***
***упартасцю***
***трактара,***
***дзірвань***
***былога***
***ўзрывай.***
***Шырокім***
***калгасным***
***трактам***
***маршыруй,***
***маладая***
***братва.***

І вось такога рупара "маршыруючай братвы" ў 1936 годзе (паводле Ул. Сядуры) НКУС **арыштоўвае** і высылае з Беларусі. Можа, пасля вяртання з высылкі У.Прыбыткоўскі (Прыбытак Лад) і стаў, як пішуць Ю.Гаўрук і Ю.Віцьбіч, "цудоўным" і "найздатнейшым" паэтам, але нам гэтыя творы пакуль невядомыя... Як і яго далейшы лёс...

У архівах КДБ РБ асобнай справы У. Прыбыткоўскага не выяўлена.

**Леанід МАРАКОЎ**

Леанід ГАЛУБОВІЧ

# Зацемкі з левай кішэні

●

Памятаю, яшчэ ў 1981 годзе на нарадзе маладых літаратараў у Каралішчавічах Рыгор Барадулін ухваліў, а пасля ў друку часта цытавалася як "перадавое нешта" і ледзь не дысідэнцкае (якраз у Польшчы вялася барацьба з "Салідарнасцю"), — верш "Палітыка", у якім ёсць і гэтыя радкі:

***Хлеб трэба сеяць, мужыкі,***
***Без хлеба — дрэнь палітыка.***

А сёння яны мне такія смешныя, наіўныя, дзіцячыя нават — ну, чыста *лукашэнкаўскі лозунг дня...*

●

Адзінае пэўнае, што ёсць у чалавечым жыцці, — гэта Гасподзь. Усё астатняе, як і жыццё нашае ўвогуле — аморфнае, нетрывалае, часовае... Хоць мы і не можам адназначна сказаць і паказаць, што, маўляў, — вось Ён, Бог наш...

Але яшчэ менш упэўнена мы можам сказаць пра ўсё іншае, што, маўляў, яно ёсць, бо яно — вунь...

Пра тое, што "ёсць Бог", мы ведаем ад пачатку нашага жыцця, а пра тое, што "нешта ёсць", мы даведваемся толькі тады, калі яно бывае альбо з'яўляецца...

Розніца невымерная, як паміж хвіляй і вечнасцю...

●

Чалавек не любіць будзённага. Яму не церпіцца як найхутчэй пражыць яшчэ адзін шэры дзень свайго жыцця...

Чалавек пажадны да будучага: вось — "заўтра" ці "ў наступным годзе" альбо "калі-небудзь пасля"...

Чалавек, найперш, любіць сваё мінулае, але не любіць жыцця ўвогуле. Смерць пераследуе яго як толькі ён пачынае жыць без любові...

●

Жыццё — скончыць, а душу — аддаць Богу... Няхай ён там з ёю няньчыцца ці што хоча робіць...

Лайдацтва — наша славянская філасофія. Вядома, што з целам ужыцца лягчэй, чым з душою...

●

Я — просты і сукаваты, як яловае палена... Той, хто сек сырыя веснаватыя дровы, ведае — намэнчышся з імі...

Затое зімой — смаловае — яно ўвобмірг згарае...

●

Каля Дома прэсы, на прыпынку 29-га тралейбуса, ляжыць сямейная пара валацугаў. На выгляд — аднаго росту, аднаго ўзросту... Спітыя, замызганыя, абношаныя... Спяць, ён чамусьці — на сухой лаўцы, галавой да сметніцы, а яна — наводдаль, на адсырэлым, пасля расталага снегу, тратуары...

Касавурацца ўсе, гідліва абыходзяць... Жывыя яны, мёртвыя?.. Ніхто залішне й не цікавіцца. Ляжаць-спяць амаль у цэнтры сталічнага горада... Ён — сабака! — на сухой лаўцы, а яна — на сырой зямлі...

О, маць вашу!.. А ўсё ж на душы шкрабе нешта на ўзроўні інстынкту жывёльнага...

Сеў у тралейбус, яшчэ раз на іх азірнуўся (а мо і дзеці малыя ёсць?), паехаў сабе... А з галавы ўсё ніяк не выходзіла ўсім вядомае: ад турмы і торбы не заракайся... М-да...

Пішу гэта на трэці дзень пасля таго. Запомнілася, засела, як стрэмка, грызе, шчыміць, будзіць...

Сам — падла! — на лаўцы, а яна — на сырой зямлі... Чамусьці найперш гэта...

●

Усё часовае ёсць жыццём, а ўсё вечнае — асэнсаваннем яго...

●

Чытаю ў Васіля Розанава: "Бог спытае: што я зрабіў?" — Анічога..."

Я дадаў бы: анічога добрага, але й дрэннага анічога, гэта значыць, пакінуў Богам створаны свет такім, якім ён і быў ад пачатку — непарушаным. Не парушыў ні свету Яго, ні веры...

●

Каторую ноч праседжваю ўпустую. Не йдзе — ні сваё, ні чужое, не пішацца, не дыхаецца, не чытаецца...

Ёсць адчуванне, што трэба зноў перачытваць Біблію. І гэта так ясна — і душой, і сэрцам — усведамляецца, што нават класіка перастае быць значнай, як месячнае святло перад узыходам сонца...

Грахі — абцяжарваюць, малітвы — абнадзейваюць...

●

Чым больш наталяешся святлом мудрых кніг, тым відней табе твая цёмнасць...

●

Пакуль са мной мая памяць, я — не адзінокі...

●

Я не ўмею шкадаваць людзей... Мне цяжка — з хворымі, грэшнымі, п'янымі, падсуднымі, слабымі... Так цяжка, як з самім сабой.

Хочацца таго, чаго бракуе, — здаровага...

●

Словамі нельга сказаць усё.

Але, можа, дзякуючы гэтаму і захоўваецца таемнасць чалавечага жыцця — яго нязведанасць, незавершанасць, непамыснасць...

Здавалася б, дастаткова сказаць: мной авалодаў вялікі жаль — і заставацца абыякавым; альбо: мне радасна й весела — і быць спакойным... І ўвогуле ці магчыма пэўнымі словамі апісаць радасць альбо жаль кожнага канкрэтнага чалавека?..

У "Бібліі сказана: "На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Богам было Слова".

Як не ведаем мы Бога ва ўсёй Яго пэўнасці, так не можам мы ва ўсёй пэўнасці выказацца ў Слове...

●

Муж і жонка пражылі даволі доўгае, ціхае, па-свойму шчаслівае жыццё — і памерлі ў адзін дзень. Ён аддаў Богу душу позна вечарам у бальніцы, не ведаючы, што яна сканала дома, у хаце, тым жа днём шарай гадзінай...

І пахавалі іх разам, адным днём...

Неверагодна, але так. Магу нават удакладніць, што жылі яны ў Мінску ў сёмым Чыгуначным завулку, у прыватным доме нумар тры...

Настолькі жыццё іх сашчапіла, што і смерць не развяла...

●

Лічы, да сарака пяці гадоў я ўсё яшчэ мысліў на перспектыву — рыхтаваў сваё магчымае заўтра... Сёння — амаль у пяцьдзесят — мне ўсё менш хочацца жыць наперад... Я з задавальненнем прыпыніўся б на дасягнутым, калі б мог...

Цяпер я разумею кансерватызм пажылых людзей. Гэта не толькі вынік іх прыхільнасці ці прыналежнасці да пэўнага часу і грамадскага ладу жыцця, а ўсяго толькі — ашчада ўласнага жыцця, якім бы яно ні было...

Вось чаму людзі, якім за пяцьдзесят — свядома ці несвядома — намагаюцца прытармажваць час і як могуць адцягваюць няўмольны ход падзей...

Іх не радуе тое, што наступае, а трывожыць тое, што канчаецца, — само іх жыццё, адзінае і непаўторнае, як бы ў каго яно ні складвалася...

●

Думаю, што ў нас не так шмат літаратараў, якія любяць пісаць некралогі. Але вядома, што многія любяць падпісваць іх, каб самаўлюбёна чытаць пад імі свае, выдрукаваныя тлустым шрыфтам, прозвішчы...

Як я спачуваю людзям (пэўна, сябрам сённяшнім і знаёмым), якія будуць пісаць ці падпісваць некралог пра мяне... Госпадзе, прабач ім тое, што яны там напішуць. Бо як ні круці, а плоць наша ўсё ж *казённая*...

●

Выношу вечарам смецце да кантэйнераў, а там, прыстойная на выгляд, сярэдняга веку жанчына перабірае-пераграсае знесеную людзьмі непатрэбшчыну... Негледзячы на маё з'яўленне, робіць яна гэта — без агіды і сарамоты — спакойна і дзелавіта...

Помню, летам ачышчаў катушок у сутарэнні ад старызны — газет, часопісаў, абутку ды іншых збытканых рэчаў... Праз якую гадзіну ўсё разабралі... Вядома, час такі...

Але мне здаецца, што так адбываецца і з літаратурай. Пісьменнік напісаў тэкст і гэтая рэч яму ўжо робіцца нецікавай і непатрэбнаю — ён яе ўжо *знасіў у сабе*...

А чытач падбірае: раптам што вартае...

●

Усё на свеце, як казаў мудры Эклезіяст: "суета сует" — усё, што акружае чалавека, і ўсё, чым ён сам сябе акружае...

Нішто для чалавека не мае большага значэння, як *ён сам*.

І калі б над ім не вісела небяспека боскага пакарання, то на якія смяротныя грахі ён спадобіўся б — страшна падумаць...

●

Кажуць, Лукашэнка збірае кніжкі Нобелеўскіх лаўрэатаў. І Мілаша, пэўна, чытаў... Мажліва й гэта:

"Умей предсказать пожар с точностью до минуты.
Затем подожги свой дом, оправдывая предсказанье".

●

Іван Бунін піша ў "Окаянных днях": "Вчера долго сидел у нас поэт Волошин. Нарвался он с предложением своих услуг ("по украшению города к первому мая") ужасно. Я его предупреждал: не бегайте к ним, это не только низко, но и глупо, они ведь отлично знают, кто вы были еще вчера. Нёс в ответ чепуху: "Искусство вне времени, вне политики, я буду участвовать в украшении только как поэт и как художник". В украшении чего? Виселицы, да еще собственной? Всетаки побежал. — А на другой день в "Известиях": "К нам лез Волошин, всякая сволочь спешит теперь примазаться к нам..." Теперь Волошин хочет писать "письмо в редакцию", полное благородного негодования. Еще глупей".

Як гэта характарызуе большасць сучасных беларускіх літаратараў. Спецыяльна для іх і не перакладаю, каб зразумелі хоць...

●

Невыпакутаваныя *лёсам* кніжкі пахнуць спілаваным *лесам*...

●

Чытаю кніжку Валянціна Акудовіча... Гэткі бадзёры песімізм — "ні Бог, ні цар і ні герой..." Дымлю паскуднай і смярдзючай гарадзенскай "астрай" — адна на старонку...

У кватэры холадна. Чакаю, пакуль жонка ўгрэе ложак... Кладуся са стрыманым аптымізмам, ды, дзякаваць Богу, яна ўжо спіць... Самы час для "роздуму на руінах чалавека"... Засынаю святым грэшнікам...

●

Пішаш не тое, *што* думаеш, хоць і думаеш, *што́* пішаш...

●

Я не маю маральнага права асуджаць людзей за амаральныя ўчынкі, бо і сам неаднойчы ў сваім жыцці апускаўся да жывёльных інстынктаў...

●

Талент павінен тварыць на памежжы святла і цемры — быццам марскі маяк: не бачыць, але быць бачным, не ратаваць, але папярэджваць...

●

У нас няма аб'ектыўнай гісторыі.

Нацыяналісты і адраджэнцы выкладваюць свой суб'ектыўны погляд... Дзяржаўныя навукоўцы-чыноўнікі трактуюць усё на свой капыл... Аб'ектыўная гісторыя нашага народа ляжыць на кладах і ў навуковых ды кэдэбіцкіх архівах, а яшчэ творыцца ў сэрцах і душах жывых людзей...

Аб'ектыўную гісторыю немагчыма напісаць, нават гісторыю аднаго канкрэтнага чалавека, бо нішто суб'ектыўнае не паддаецца аб'ектыўнай трактоўцы... Можна напісаць паводле... Паводле Абэцэдарскага, паводле Арлова, паводле Заматаліна... Гісторыя заўжды наводдаль — і кожны бачыць і разумее яе са сваёй гістарычнай дыстанцыі: будучы блізка — разглядаеш дэталі, знаходзячыся на аддаленні — бачыш агульны абрыс... Сам творца гісторыі не ўсведамляе сваёй гістарычнай місіі... Пакуль жывём — мы па-за гісторыяй. Нездарма "гісторыю хваробы" дактары не даюць на рукі пацыентам...

Гісторыя праходзіць міма нас, як жаданая намі, але абыякавая да нас жанчына... Яна можа зацяжарыць толькі ад нашага гвалту... І тое, што яна народзіць пасля падобнай блізкасці з намі, і ёсць не што іншае, як гісторыя нашага жыцця...

●

Немагчыма быць шчырым з людзьмі толькі за кошт уласнага жадання. Трэба, каб гэтага жадалі і тыя, з кім ты хочаш быць шчырым...

Сіроцтва і шчырасць — відавочныя сінонімы.

●

Шніп пачаў пісаць *"блатныя"* вершы. Жартуе, што без *"блату"* наўрад ці хто надрукуе іх...

●

Мяне моцна абражае той факт, што бацьку-Лукашэнку ведае ўвесь беларускі народ, а майго дзядзьку Мішу, як на мой погляд, аднаго з лепшых людзей нашага часу, — толькі яго сябры, знаёмыя, родзічы ды аднавяскоўцы...

Вось у чым трагедыя беларускага народа — у няведанні існага...

●

Жыццё само па сабе стратнае. Час яго абясцэньвае... І калі б за ім не прыходзіла смерць, то яно ўвогуле страціла б усякую каштоўнасць...

●

Калі ты па-сапраўднаму палюбіш хоць аднаго чалавека, то палюбіць астатніх табе будзе намнога лягчэй...

●

У Юры Станкевіча перагарэў цепларэгулятар на хатнім паравым катле, у Барысаве ў хворай маці... О чорт! Толькі што, на мінулым тыдні, ён уладжваў праблемы з газам, а перад тым — ледзь выйшаў сухім у гісторыі з ацяпляльнымі батарэямі...

Увогуле, Станкевіч сёння — адзіны беларускі пісьменнік з *вечнай прозай* жыцця...

●

Нейк падумалася, неўзіраючы на падколкі, што па выхадзе кніжкі "Зацемкі з левай кішэні", пачну пісаць "зацемкі з правай"...

Ажно на днях жонка купіла свайго любімага чэха Карэла Чапэка, а ў яго — гляджу — "Рассказы из одного кармана" і "Рассказы из другого кармана"...

Правы Эклезіяст: нічога новага пад сонцам няма. Як і японскі паэт Ісё:

***Видели всё на свете***
***Мои глаза — и вернулись***
***К вам, белые хризантемы.***

Але тут ужо не столькі іншы сэнс, як большы... Брыльянт позняга японскага сярэднявечча!

А вось як пісаў на памежжы двух тысячагоддзяў не так даўно адкрыты для чытача Рубако Шо ў сваіх "эратычных танках":

***С улыбкой***
***Развязала кимоно***
***Но просишь отвернуться***
***Большие чувства***
***Маленькая грудь***

Якая тонкая паэзія! Асабліва на ўзроўні нашых прыярытэтаў: *большая грудь и маленькие чувства.*

●

Не-не дый прылепішся вокам да якой вабнай маладзіцы, дый прыцэнішся няўзнак... Так, як бы на ўсякі выпадак...

Як бы нехта ці нешта час ад часу напамінае табе, што ты яшчэ і *мужчына*, апроч таго, што — *чалавек*...

●

Аляксандр Станюта распавядае ў "ЛіМе" пра Салжаніцына ў сувязі з яго адмовай ад *"ельцынскага"* ордэна: "Які талент! Які чалавечына! А сам увогуле малы ростам... Жонка, дарэчы, яшчэ меншая... Але — жылісты. І ў жыцці сваім педантычны. Сакураў, вось, пра яго фільм зрабіў — "Вузел". Гэта, скажу вам, хлопцы, найперш фільм Сакурава, а не фільм пра Салжаніцына... Між іншым, Сакураў — таксама маларослы, мо нават яшчэ ніжэйшы за Салжаніцына, і кульгавы да таго ж..."

Шніп, з якім я сядзеў поруч — адчуваю, — ажно плечы распраставў... "Дык не самыя *малыя* мы, Віця, на гэты свеце, аказваецца..." — шапчу яму на вуха...

●

Сказаць ці прамаўчаць, напісаць ці "апусціць"? — для мяне падобных пытанняў не паўстае.

Паўстаюць пытанні іншага кшталту: правільна гэта, справядліва, сумленна ці не? Зразумела, з майго пункту гледжання.

Менавіта адсюль і гэтыя "зацемкі", якія пішу я, а не хто іншы.

●

Спачатку ў нас не было пісьменнікаў, цяпер няма чытачоў...

## Не было і трыццаці

Да тых пісьменнікаў, хто некалі звязаў свой лёс з "ЛіМам" належыць і Міхась Юдэлевіч. Супрацоўнікам "Літаратуры і мастацтва" ён з'яўляўся ў 1935—1940 гадах. А да таго быў акцёрам Мінскага тэатра рабочай моладзі, вучыўся ў Дзяржаўным інстытуце мастацтва ў Маскве. Пасля "ЛіМа" некаторы час загадваў аддзелам тэатра Упраўлення па справах мастацтва пры Саўнаркоме БССР. Прызваны ў армію, удзельнічаў у савецка-фінскай вайне, а пасля ў Вялікай Айчыннай. Загінуў у самым пачатку яе, у сорак першым...

Друкавацца М. Юдэлевіч пачаў у 1929 годзе. У 1932 годзе напісаў п'есу "Зямля гарыць", пастаўленую на радыё. Аўтар лібрэта оперы "Паўка Карчагін", музыка П. Падкавырава (пасля вайны ставілася ў кансерваторыі як студэнцкі спектакль). Пісаў вершы, прыпеўкі, якія змяшчаліся ў перыядычным друку; займаўся перакладам, інсцэніраваў раман М. Астроўскага "Як гартавалася сталь". 20 красавіка — 85 гадоў з дня нараджэння Міхася Львовіча.

## З вялікай дарогі — вялікі ўмалот

Лёс адмераў Васілю Барысенку 80 гадоў (нарадзіўся Васіль Васільевіч 25 красавіка 1904 года, памёр 26 ліпеня 1984-га). У 1929 годзе скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага універсітэта, потым аспірантуру пры АН БССР. З 1937 года працаваў дырэктарам Інстытута мовы і літаратуры. У час вайны быў карэспандэнтам армейскай газеты, з 1946 па 1973 год — дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, а пасля старшы навуковы супрацоўнік-кансультант гэтага інстытута.

З крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі В. Барысенка выступаў з 1932 года. Аўтар кніг "Францішак Багушэвіч і праблема рэалізму ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя", "Роля рускай класічнай літаратуры ў развіцці рэалізму беларускай літаратуры пачатку XX ст." (разам з В. Івашыным), сааўтар (з В. Івашыным) падручніка для 8 класа "Беларуская літаратура" (вытрымаў 19 выданняў), хрэстаматыі для 10 класа "Родная літаратура" (14 выданняў), адзін з аўтараў "Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры", "Истории белорусской дооктябрьской литературы". За ўдзел у двухтомным даследаванні "История белорусской дооктябрьской литературы" і "История белорусской советской литературы" ў 1980 годзе быў удастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР.

## Памяці паэткі

Літаратурныя вечарыны ў Абласной бібліятэцы імя Пушкіна сталі ўжо добрай традыцыяй. Чарговая — сумесна з Саюзам пісьменнікаў — была прысвечана памяці Еўдакіі Лось (1 сакавіка ёй споўнілася б 70). Выпалены ўшацкі край, дзе загінуў кожны другі, даў Беларусі выдатную паэтку. На жаль, яе талент не рэалізаваўся цалкам: 48 год жыцця — гэта так нямнога...

"Наша Дуся", як звалі яе калегі, мела няпросты характар, магла рашуча і бескампрамісна адстойваць свае пазіцыі. "Паэзія выключнай праўды і свабоды выказвання" (Г. Бураўкін), можа, якраз і вынікала з такога — як лічылі, не жаночага — характару. Усцешвае той факт, што вершы Еўдакіі Лось выйшлі ў новай, так званай залатой выдавецкай серыі.

Ёсць штосьці сімвалічнае ў тым, што ў 1977-ым, у год сваёй смерці, яна запрасіла да сябе дамоў маладых паэтак (пра гэта расказала на вечарыне Р. Баравікова). Засталіся здымкі з той сустрэчы, дзе яна абдымае ўсіх за плечы, а твар у яе нейкі асабліва мяккі і праяснены.

А. Вярцінскі згадаў апошнюю творчую вечарыну Е. Лось і прачытаў верш, прысвечаны яе памяці. Сын паэткі Дзмітрый выдатна прачытаў матчын верш "Беларусь, мая ты доля...", а навучэнцы Мінскай СШ № 23 (літаратурна-краязнаўчы клуб "Бацькаўшчына") выканалі кампазіцыю па яе творчасці.

Сёстры паэткі, М. Ярашэвіч і М. Клімовіч, выказалі крыўду з нагоды таго, што ў Мінску памяць Еўдакіі Лось ніяк не замацавана. І толькі родная Віцебшчына ўганаравала яе імя...

На вечарыне выступілі добры дзесятак паэтаў і толькі адзін празаік — А. Савіцкі. Яшчэ адзін зямляк, С. Законнікаў, быў вядучым імпрэзы.

Г. К.



# Чарнабылевы боль крыжа

(Працяг. Пачатак на стар. 1)

*І ўздыхала між дрэў вясна,*
*ніц схілёная перад Краем.*
*Цалавала жанчына час —*
*спавіваная ў сум скрыжалі,*
*дзе бяздомныя дні крычаць*
*і свіціцца прастора жалем.*

●

*...А простара, як нотны стан:*
*з краю крыж, быццам ключ скрыпічны.*
*Тут мой век у зямлю ўрастаў*
*І адсюль мяне Бог пакліча.*
*Як пайду да майго крыжа,*
*панясу свой нажытак лёсны.*
*А крыжы, як Дзяды, ляжаць.*
*І спыняюцца вёснаў кросны...*
*Памяць тузае за крысо*
*і вядзе да магілаў з тлуму.*
*Як прысяду на бел пясок*
*ды расхрыстаю ў Неба думы...*

*Дзе вам, думы мае, ляцець?*
*У кветках і крыжах чарнобыль.*
*Прабіваецца сонца ледзь...*
*Што мы робім з зямлёй, што робім?*
*Толькі дрэвы і я. І крыж.*
*Ды вянок, — як замок на крылах.*
*Што ж, наступнасць мая, стаіш,*
*як прысуд, пад крыжом аджылым?*

●

*...Як прысуд, мацярок пагляд*
*з сэрцавіны крыжовай, з Вышы.*
*Тут лабата маўчыць зямля.*
*Тут гісторыю вецер піша.*
*Адзінока лятуць крыжы —*
*жураві над журботным Краем.*
*А душы маёй тут кружыць —*
*у застуджаным, цёмным раі.*
*Тут жывыя адны крыжы.*
*Ды ўспамін пра буслоў клёкат.*
*З неабжытых двароў чужых*
*мы прыходзім сюды, здалёку.*
*Над пагостамі — туманы*
*раскаціліся зрэб'ем густа.*
*Ці крыжы, ці дзядовы сны*
*павыходзілі ў белых хустах?..*
*Мы пакінем тут белы шлях,*
*за халодным сталом — бязлюддзе.*
*Крыжа-голубе, вечны птах,*
*што тут будзе без нас, што будзе?*

●

*...Што тут будзе? — пытае ноч,*
*прытамлёная цемру правіць.*
*А світанні паўзуць наўзбоч*
*і згараюць у мёртвых травах.*
*Што тут будзе? — журбуе дол*
*з-пад крыжоў — галасоў струхлелых.*
*Памяць бела плыве з кладоў,*
*як душа адыходзіць з цела.*
*Што тут будзе? — хмурнее бор.*
*— Бур'яны. Дзірваны. Ламачча...*







*А па белым чырвоны ўзор*
*над магiламi жальна плача.*
*Што тут будзе? — схiлiўся век*
*i зажмурыў ад страху вочы.*
*Жылы злосны ўраган парве,*
*пакуль камень вада падточыць?*

●

*...А цi камень глухой душы*
*прыме-ўчуе ваду жывую?..*
*Мы ў бязмежнасцi — спарышы:*
*Бог злучае i Бог крыжуе.*
*А на варце стаяць крыжы —*
*над зямлёй ссiрацелай стрэхi.*
*Ой, скажы ж нам, родзе, скажы,*
*скуль атрута, з якiх прарэхаў?*
*Блудзiць, сыплецца сонны чад —*
*уратуй, заслані нас, Божа!*
*Веказломна крыжы маўчаць*
*i напята трымцiць трывожжа.*
*Словы тонуць у вышынi.*
*Да вякоў — ручнiка дыханне.*
*Смутна ўкленчылi нашы днi*
*ў белым раннi, перад расстаннем.*
*Мiж нашчадкам i продкам — крыж.*
*Мiж Зямлёю i Небам — голас.*
*Мудры часе, куды бяжыш?*
*Пуста ў хаце, на сэрцы — гола.*
*Сцежкi — касамi ад кустоў.*
*Вiнаватай Айчыны локаць...*

*Над магiлай святочны стол.*
*Пад крыжамi святая покуць.*
*I вястуе нам шчыры лес,*
*малiтоўна шапоча нетра:*
*на крыжовым сляпым крыле*
*тонка вера дрыжыць пад ветрам.*
*I глядзiць задуменна род*
*над крыжамi ў нямую далеч... —*
*да варот пасiвеў зварот,*
*i сады й дамы схаладалi.*
*Нерухомы стары пагост*
*тут адчайна крыжоў чакае.*
*Заўтра зноў прывязём каго*
*i пакiнем пад ручнiкамi?*

●

*...Застаецца балючы шнар*
*белай стужкi па-над гасцiнцам.*
*Краю-краю, чужы званар,*
*дзе згубiў ты сваю званiцу?*
*Людзе-людзе, нашто звялi*
*ў чужакрэўе тваю дарогу?*
*Стылым болем душа балiць*
*пад набожнiкам-абярогам.*
*А калi ж ты, сляза, згарыш?*
*Скрушна з бацькаўшчыны з'язджаем.*
*I цалуе Сусвеццe крыж...*
*I свiцiцца прастора жалем...*

*Фотанавела Анатоля КЛЕШЧУКА*



ПОСТАЦІ

# "Электрычны чалавек"

Летась споўнiлася 150 гадоў з дня нараджэння Якуба Наркевiча-Ёдкi (1848—1905), таленавiтага беларускага вучонага — прыродазнаўца, заснавальнiка метэаралогii на захадзе Расii. У канцы XIX ст. яго iмя было добра вядома далёка за межамi Беларусi — у Парыжы i Рыме, Берлiне i Вене, Санкт-Пецярбурзе...

Ён нарадзiўся ў родавым маёнтку Турын (зараз вёска ў Пухавiцкiм раёне на беразе Свiслачы), у сям'i заможнага памешчыка. Радавод Наркевiчаў-Ёдкаў губляецца недзе ў часах Вялiкага княства Лiтоўскага. Бацька Якуба, Антон Ануфрыевiч Наркевiч-Ёдка, належаў да старажытнага шляхецкага роду. Сваю маёмасць (4,5 тысячы дзесяцiн зямлi ў Iгуменскiм i Слуцкiм паветах) павялiчыў шлюбам з Ганнай Эсткай, праз якую род Наркевiчаў-Ёдкаў уступiў у сваяцтва з родам Касцюшкаў, таксама вядомага шляхецкага роду беларускага паходжання. У сярэдзiне XIX ст. ён набыў у князёў Радзiвiлаў сядзiбу Наднёман — там, дзе злучаюцца дзве ракi (Лоша i Уса) i даюць выток Нёману (цяпер Уздзенскi раён). У цэнтры сядзiбы яшчэ ў XVII ст. быў пабудаваны белакаменны двухпавярховы палац у стылi неаготыкi (канчаткова сфармiраваны ў XIX ст.). Побач з палацам узнiмалася 27-метровая вежа, якая з 1888 г. стала добра вядома расiйскiм i еўрапейскiм прыродазнаўцам як метэастанцыя Якуба Наркевiча-Ёдкi.

Бацькi мелi тут багатую бiблiятэку, i Якуб з маленства атрымаў добрую хатнюю адукацыю. На пачатку 60-х гадоў ён паступiў у Мiнскую губернскую гiмназiю, якую закончыў у 1865 г. як бакалаўр навук (у лiку тых, хто вучыўся ў гэтай прэстыжнай гiмназii, былi беларусазнавец, акадэмiк Яўхiм Карскi, кампазiтар Станiслаў Манюшка, знакамiтыя прыродазнаўцы сусветнага маштабу Бенядзiкт Дыбоўскi i Канстанцiн Ельскi i iнш.). У гiмназii Якуб добра вывучыўся граць на фартэпiяна i ў гэтай якасцi ён потым падарожнiчаў па Еўропе, меў выдатны поспех як пiянiст-вiртуоз у каранаваных асоб. Жыў за кошт урокаў музыкi i пашыраў свае прыродазнаўчыя веды ў навучальных установах Парыжа, Вены, Фларэнцыi.

Пасля пяцiгадовага "агульнаадукацыйнага" падарожжа па краiнах Еўропы Якуб Антонавiч некаторы час жыве i працуе ў Маскве, але неўзабаве асядае ў сваёй сядзiбе Наднёман дзеля самастойных навуковых даследаванняў. Ён i ўвайшоў у гiсторыю навукi як адзiн з апошнiх прадстаўнiкоў прыродазнаўцаў-адзiночак.

Дарэчы, першую метэастанцыю на Беларусi заснаваў Андрэй Сiмплiцыянавiч Бялынiцкi-Бiруля (1825—1916) у сваiм маёнтку Бабкоў пад Оршай, але яна была больш аматарскай, другаразраднай. А станцыя Якуба Наркевiча-Ёдкi амаль адразу зацiкавiла Рускае геаграфiчнае таварыства (РГТ) i Галоўную фiзiчную абсерваторыю (ГФА) Пецярбургскай акадэмii навук. Навуковае супрацоўнiцтва з РГТ i ГФА перарасло ў кантакты з вучоным светам. Яго наведвалi ў Наднёмане вядомыя вучоныя, у прыватнасцi А. I. Ваейкаў (1842—1916), знакамiты рускi клiматолаг i географ, заснавальнiк клiматалогii ў Расii.

Першаразрадная метэастацыя Я. Наркевiча-Ёдкi была адной з найбуйнейшых i ўваходзiла ў сетку станцый ГФА. Ён павiнен быў, як карэспандэнт ГФА, сiстэматычна праводзiць розныя назiраннi стану атмасферы: цiску, вiльготнасцi тэмпературы паветра, напрамку i сiлы ветру, колькасцi ападкаў, замяраць вiльготнасць глебы, вызначаць таўшчыню снегавога покрыва. Усё гэта рабiлася па метэаралагiчнай праграме РГТ.

Станцыя Наднёман была забяспечана першакласнымi прыборамi, сярод якiх сканструяваныя самiм Я. Наркевiчам-Ёдкам. Акрамя метэаралагiчнага напрамку, яго навуковы "Цэнтр" быў абсталяваны астранамiчнай, электраграфiчнай, электрабiялагiчнай i хiмiчнай лабараторыямi. У 1889 г. на пасяджэннi Метэаралагiчнай камiсii РГТ ён прапанаваў спосаб вывучэння хуткасцi руху воблакаў i прадэманстраваў адпаведны прыбор. Для сiстэматычных вымярэнняў вiльготнасцi глебы на глыбiнi да 3 метраў ён сканструяваў прыбор "лiзiметр" (адзiн з узораў гэтага прыбора перадаў Пецярбургскаму унiверсiтэту). На тэрыторыi свайго маёнтка выкарыстоўваў... градаадводы для памяншэння шкоды ад навальнiц i градабою. Першае паспяховае паведамленне пра сiстэму градаадводаў ён зрабiў на пасяджэннi РГТ у Пецярбурзе ў лютым 1889 г. Гэтыя навальнiца-градаадводы атрымалi шырокае скарыстанне ў Акерманскiм павеце Бесарабскай губернi (зараз Адэская вобласць Украiны).

Кола праблем, якiя цiкавiлi вучонага, было шырокае. Сярод iх — вывучэнне з'яў атмасфернай электрычнасцi. Яшчэ ў 1890 г. ён сканструяваў i ўжыў для рэгiстрацыi навальнiчных разрадаў прыбор, якi дазваляў рэгiстраваць электрычныя разрады ў атмасферы на адлегласцi да 100 кiламетраў, а праз тры гады (1893) з яго поспехамi па электраграфii



былi азнаёмлены вядучыя вучоныя цэнтры Заходняй Еўропы — Парыж, Прага, Берлiн, Вена, Фларэнцыя i iнш., дзе ён прачытаў лекцыi i прадэманстраваў свае вопыты. У 1899 г. Савет франка-рускай выстаўкi ў Пецярбурзе ўзнагародзiў яго залатым медалём за дасягненнi ў электратэхнiцы, а на мiжнародным кангрэсе ў Францыi (1900) яму было прысуджана званне прафесара электраграфii i магнетызму. Яго аўтарытэт у галiне электраграфii супляменнiкi прыроўнiвалi па значнасцi для навукi з адкрыццём Х-промняў нямецкага фiзiка Вiльгельма Рэнтгена (1845—1923), лаўрэата Нобелеўскай прэмii.

Я. Наркевiч-Ёдка быў першаадкрывальнiкам новых накiрункаў у навуцы, якiя знаходзяцца на стыку розных навук. Летам ён працаваў у сваiм маёнтку, зiмой жа адпраўляўся ў падарожжа — Пецярбург, Маскву, у Заходнюю Еўропу, дзе апрабоўваў свае iдэi. Выдатны знаўца таемнасцей электрычнасцi, у першую чаргу атмасфернай (прыроднай), ён зрабiў шэраг выдатных адкрыццяў.

У навуцы часам бывае больш важна асмелiцца выказаць нетрывiяльную думку, чым увасобiць яе матэрыяльна. Значны ўклад у гэта ўнёс беларус Я. Наркевiч-Ёдка. Доследы пачатку 1890-х гадоў XIX ст. па перадачы электрамагнiтных сiгналаў сведчаць — вынаходства радыё было падрыхтавана ўсiм ходам развiцця фiзiчнай навукi: Генрых Герц (1857—1894) эксперыментальна даказаў у канцы 1880-х iснаванне электрамагнiтных хваль, а прыярытэт Я. Наркевiча-Ёдкi ў бяздротавай перадачы сiгналаў быў пацверджаны Французскiм фiзiчным таварыствам у снежнi 1898 г. Гэтыя вынiкi натхнiлi выдатнага рускага фiзiка i электратэхнiка А. С. Папова (1859—1906) на вынаходства радыё — у 1901 г. ён дасягнуў на сваiм прыёмнiку дальнасцi радыёсувязi 150 кiламетраў.

Я. Наркевiч-Ёдка ўнёс пэўны ўклад у распаўсюджванне прыродазнаўчых ведаў у тагачаснай Расii. Ён быў адным з заснавальнiкаў навукова-папулярнага часопiса "Метеорологический вестник" (першы нумар выйшаў у свет у студзенi 1891 г.), у якiм i сам друкаваў свае артыкулы. Ён быў абраны членам-супрацоўнiкам, членам-карэспандэнтам альбо ганаровым членам многiх расiйскiх i замежных навуковых таварыстваў,у прыватнасцi — ганаровым членам фiзiка-матэматычнага таварыства Галiлея ў Фларэнцыi i iнш. За заслугi ў галiне метэаралогii па рэкамендацыi прэзiдэнта Пецярбургскай акадэмii навук Я. Наркевiч-Ёдка быў узнагароджаны ордэнам св. Ганны II ступенi (1900), а за грамадскую працу — ордэнамi св. Станiслава i св. Ганны III ступенi; ён быў таксама ўзнагароджаны сярэбраным медалём Рускага геаграфiчнага таварыства (1891) i меў чын стацкага саветнiка. Ён быў заснавальнiкам касцёла ў Ментане на Блакiтным узбярэжжы Мiжземнага мора (Сан-Рэма, Iталiя) i меў тытул камергера Папы Рымскага, а ў маладосцi ў час франка-прускай вайны знаходзiўся ў асаджаным Парыжы, быў сведкам трыумфу i трагедыi Парыжскай камуны.

Памёр Якуб Антонавiч 19 лютага 1905 г. i пахаваны паблiзу Наднёмана, у лесе, на старых могiлках. На магiле ўстаноўлены помнiк.

Вельмi добра было б, каб архiтэктурны помнiк XVII ст. — палац Наркевiчаў-Ёдкаў у Наднёмане быў адбудаваны. Пасля аднаўлення сядзiбы вежу палаца можна было б выкарыстаць пад музей метэаралогii XIX ст., а палац мог бы стаць Домам творчасцi вучоных-прыродазнаўцаў.

**Вольга ГАПОНЕНКА,**
**Валерый ЯРМОЛЕНКА**

**Саюз беларускiх пiсьменнiкаў выказвае глыбокае спачуванне ГУРСКАМУ Васiлю Рыгоравiчу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерцi жонкi.**

ГАСЦЁЎНЯ

***Капітана далёкага плавання Міхаіла Ігнатавіча САЎЧАНКУ ведаюць не толькі на роднай Віцебшчыне. Член Расійскай асацыяцыі міжнароднага марскога права, кандыдат юрыдычных навук, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі міжнароднага права, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі арганізацыйных і кіраўніцкіх навук, адным часам — кіраўнік Генеральнага консульства Беларусі ў Эстоніі. У 91-ым звярнуўся да ўрада рэспублікі з прапановай стварыць беларускі рыбапрамысловы флот. У траўні 99-га збіраецца выйсці ў мора на рыбаздабываючым судне пад беларускім дзяржаўным сцягам...***

# “Ніколі не быў беларус сухапутным...”



**— Міхаіл Ігнатавіч, не мае Беларусь выхаду да мора. Але добра вядома, што ў свеце такіх дзяржаў больш трох дзесяткаў. І многія ганарацца сваім марскім флотам. Скажам, Швейцарыя ці Чэхаславакія. Нават Манголія абвяшчае сябе “марской дзяржавай”. Ну а мы? Так і застаёмся сухапутнымі?**

— Ды ніколі не быў беларус сухапутным. Вельмі спадзяюся, што і не будзе. Узгадвалі мы калісьці разам з гісторыкам Алегам Трусавым, што Беларусь заўжды была марской дзяржавай. Полацкае княства праз васальныя землі мела выхад у Балтыйскае мора, на роўных уваходзіла ў Ганзейскі марскі саюз. А Вялікае княства Літоўскае, разграміўшы тэўтонаў, вольна і з вялікай выгодай для сябе карысталася портам Крулевец (сённяшні Калінінград). А які магутным быў наш рачны флот у XVIII—XIX стагоддзях... Адраджаць трэба тое, што так неахайна згубілі.

**— Няўжо наша нацыянальнае ды класічнае “няма таго, што раньш было” не замінае з верай глядзець у будучыню з беларускага, так бы мовіць, “капітанскага мосціка”?**

— Вось менавіта гэтая вера і вярнула мяне з Камчаткі на радзіму. Звычайная вера ў свае сілы і веды. Ды плюс нармалёвае мужчынскае жаданне самарэалізавацца ў агульнакарыснай справе. Не прагнуў ні грошай, ні высокіх пасадаў. Усё гэта было. Як-ніяк з'яўляўся капітан-дырэктарам крабаперапрацоўчага судна, якое належала савецка-японскаму прадпрыемству. Калі б застаўся — мільярдэрам, напэўна, стаў. Так што не пра кар'еру думаў. Проста адчуў, што магу рэальна дапамагчы незалежнай Беларусі. Пасля развалу Саюза пры непазбежным падзеле “маёмасці” з'явілася магчымасць заявіць і аб нашым бясспрэчным праве, замацаваным шматлікімі міжнароднымі канвенцыямі, на адпаведную частку марской гаспадаркі. Таму і пачаў дзевяць год таму актыўна даводзіць гэтую ідэю нашаму ўраду. Карысць ад справы была відавочнай. Рыба з магазінных прылаўкаў тады амаль увогуле знікла. Рынак у руках цвёрда трымалі перакупшчыкі. Рыбнай спекуляцыяй не займаўся толькі абібок. Адна тона каштоўнай рыбы — некалькі тысяч долараў, а ловяць яе штогод не меней дзесяці мільёнаў тон. За адну б пуціну некалькі выкупленых ці арандаваных суднаў, працуючы ў Ціхім акіяне, кампенсавалі б усе дзяржаўныя выдаткі... Якія толькі парогі ні аббіваў, каб перакапаць і зацікавіць. Тагачасны Вярхоўны Савет мяне падтрымаў. Дэбаты ў друку пачаліся. Некалькі разоў звяртаўся да Старшыні Саўміна Кебіча. Па сваёй ініцыятыве наведаў Калінінградскую вобласць. Тамтэйшая адміністрацыя гатова была супрацоўнічаць з намі па ўсіх прапанаваных накірунках. Але стварэнне беларускага марскога ведамства на ўзроўні ўрада недаравальна зацягвалася. Каб не сядзець без справы, вырашыў арганізаваць марскую кампанію “Белфлот”. Крэдытарам яе выступіў канцэрн “Тэхнаканверс”. Асноўны накірунак дзейнасці: здабыча і перапрацоўка рыбы, перавозка грузаў і тавараў морам...

**— Дзяржава, па сутнасці, засталася збоку?**

— Атрымліваецца так. Усё было зроблена па няўдалым расейскім прыкладзе. Дэпартамент марскога флоту ўключылі ў структуру Міністэрства транспарту, а камітэт рыбнай гаспадаркі — у сельгасміністэрства. У выніку мы маем тое, што маем. Рыба амаль выключана з нашага рацыёну. А аптымальны час для больш-менш бесхваравітага ўтварэння нацыянальнага флоту недаравальна ўпушчаны з-за нерашучасці чыноўнікаў. Паслугі некалькіх тысяч беларускіх прафесійных маракоў, якія працавалі раней у параходствах Прыбалтыкі, Расіі, Украіны, на ўнутраным рынку працы застаюцца незапатрабаванымі. Выпраўляць чужыя памылкі ох як цяжка. Але веру і лепшае я не губляю ніколі. З'яўляючыся галоўным спецыялістам па марскіх пытаннях Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта РБ, зноў аббіваю парогі. І зроблена, дзякаваць Богу, нямала. У рэспубліцы сфарміравана нарматыўна-прававая база марскога судаваджэння. Урад зацвердзіў палажэнне аб Дзяржаўным рэестры марскіх судоў Беларусі і Нацыянальным пасведчанні асобы марака рэспублікі.

**— Справа за малым... Калі канкрэтна вы выходзіце ў мора? Назва карабля? Склад каманды? Мяркуемы вынік плавання?..**

— Пачакайце, пачакайце. Не ўсё для сябе сам вырашыў. Дый сурочыць важную справу не хацелася б... Скажу толькі, што англійская рыбалоўная кампанія “Frioschipping” ужо зацвердзіла мяне капітанам аднаго з судоў, якое мы будзем арандаваць. Ёсць адпаведная дамова на так званы бэрбоўт-чартэр. Гэта значыць, судна арандуецца без экіпажу. Набіраць будзем толькі сваіх маракоў. Праблем тут ніякіх. Кожны вечар да мяне дзесяткі тэлефанаванняў. Пэўныя хлопцы ўжо праходзяць перападрыхтоўку ў Калінінградзе. Дарэчы, мясцовая Балтыйская акадэмія (былая марская вучэльня) гатова прымаць беларускіх маракоў без усялякіх абмежаванняў... Дык вось, судна гэтае — вялікі маразільны рыбалоўны траўлер. Рабочая назва — безумоўна ж, “Беларусь”. Грошы на арэнду ёсць дзякуючы колішняй дзейнасці “Белфлоту”. Выхад у мора намечаны на травень. Лавіць будзем у Баранцавым моры. Мурманская адміністрацыя абяцае без затрымак выдаць на гэта адпаведную квоту. Зараз збіваю ногі, рыхтуючы дакументацыю, неабходную для рэгістрацыі судна ў Дзяржаўным рэестры марскіх суднаў Беларусі. Прамысловы рэйс будзе доўжыцца тры месяцы. За гэты час павінны вылавіць дзесьці паўтары тысячы тон стаўрыды, траскі, скумбрыі. Безумоўна, кропля ў моры. Але гэты рэйс — першы, пробны. Калі ўсё пойдзе добра, гарантую: рыба ў беларускіх харчовых крамах будзе. Каб толькі марскі цар ды ўдача паспрыялі...

**— А вы, я гляджу, капітан з прымхлівых...**

— Натуральна! Як і любы марак. У пятнаццаць гадоў курсантам вышаў на вучэбным парусніку ўпершыню ў мора. Зараз мне шэсцьдзесят. Усё жыццё па сутнасці ўдалечыні ад родных берагоў. Гарэў. Двойчы тануў. Першы раз — практыкантам. Другі — калі ўжо трэцім памочнікам капітана стаў. Побач з Н'юфаундлендам усё здарылася. Амаль што на месцы гібелі славутага “Тытаніка”... А вы кажаце! Нам без прымхлівасці ніяк немагчыма. І справа не ў тым, каб жанчыну, скажам, на палубу не пускаць. На флоце зараз жанчын — мора, дзве нават капітанамі ходзяць... Тут іншыя сакрэты! Ды плюс мора любіць і паважаць трэба... А гарэў, калі ўжо капітанам стаў. Дарэчы, самым маладым у колішнім Саюзе. Па віне нямецкіх суднабудаўнікоў аварыя на борце адбылася. Справіўся, выплыў, збіраюся ў плаванні хадзіць і надалей...

**— А юнгам у наступны рэйс возьмеце?**

— Якое пытанне! Пабачыце мора, сапраўднае, натуральнае — іншым чалавекам станеце!

**— Ну тады сем футаў вам пад кілем!**

— Дзякуй.

**Гутарыў Яўген РАГІН**



ЭПІГРАМЫ ЭДУАРДА АКУЛІНА | ШАРЖЫ АЛЕГА КАРПОВІЧА



*Алесь Разанаў*

***Паэты — сатворцы Бога...***
***Казаць гэтак, можа, й грэшна?***
***Ды ўсё-ткі такіх нямнога,***
***хто з гліны стварае вершы!***



*Юры Станкевіч*

***Юры Юры Юры Юры***
***любіць ноч і пацукоў...***
***Дуры дуры дуры дурыць***
***гэта секс, а не любоў.***



*Уладзімір Арлоў*

***У Арлова за Словам — слава...***
***А ў кагосьці — наадварот.***
***Аж да пятай не сплю — цікава —***
***Чым закончыцца радавод?***





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**
**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-8204**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**
**літаратурнага жыцця — 284-8462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**
**паэзіі і прозы — 284-8204**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462**
**навін — 284-8462**
**мастацкага афармлення — 284-8204**
**фотакарэспандэнт — 284-8462**
**бухгалтэрыя — 284-7965**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3795
Нумар падпісаны ў друк 22.4.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1860Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12